Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

1930

№ 7

Ліпень

Год выданьня IV





# АДУСЮЛЬ АБА ЎСІМ

**Гусак і філін.** У в. Ік, Ніклаўскага раёну, Ішымскай акругі, Уральскай вобласьці 3 сакавіка 1930 году на гуся—самца напаў філін на дварэ. Схватка адбылася ўначы. Калі гаспадар дому Кашаленка вышаў раніцой на двор, то убачыў шэрую кучу сцэпленых цел. Гэта былі вялізарны вушасты філін, заўважаны раней у кражы гусей па вёсцы, і стары гусак. Гаспадар прытрымаў філіна мятлой на месцы, а гусак дабіў яго. („О. Г.")

**Зьнішчылі вывадак ваўкоў.** У гэтым годзе каля в. Чорнае, Рэчыцкага раёну сялянамі былі забіты 7 маладых ваўкоў—цэлы вывадак. Гэта сьведчыць аб тым, што сяляне могуць самі зьнішчаць ваўкоў там, дзе паляўнічыя сьпяць. **Паляўнічы.**

**Качкі і нафта.** У раёне нафтавых распрацовак назіраюцца цікавыя зьявішчы. Каля нафтавых вышак, а ў іншых мясцох яе прадукты: мазута і інш. зьбіраюцца ў больш ці менш вялікіх размерах. Пралятаючыя качкі прымаюць такія „нафтавікі" за вадаёмы, спускаюцца на іх і пасьля падняцца ня могуць, бо густая клейкая мазута абляпляе пер'я птахі і пазбаўляе магчымасьць ляцець. Качкі, папаўшыя ў нафтавікі, так і гінуць там ад голаду. Адзін паляўнічы, прабраўшыся туды па накладзеных ім дошках, дастаў пару качак, але другі, пайшоўшы па яго сьлядох, праваліўся і пасьля некалькіх гадзін сядзеньня ў студзёнай нафце, сам быў вылаўлены пажарнай камандай. („О. П.")

**Суд лінча ў лебедзеў.** Вядома, што ў буслаў і лебедзеў часамі ўтвараюцца суды і выносяцца прыгаворы пакараньня сьмерцю. Ахвяра забіваецца клювамі судзьдзяў. Часьцей за ўсё суд учыняецца над хворай ці слабай птахай, якая магла-б перашкаджаць стаі ў часы пералёту. Але зусім выключны выпадак адбыўся нядаўна каля Дзюсельдорфа, Германія. Каб ажывіць жыцьцё птах на возеры размерам у 20 га, туды пусьцілі, апроч качак і гусей, пяць лебедзеў - клікуноў. Адна з лябёдак адлучылася ад сваіх таварышоў і спаравалася з японскім лебедзем, які яе моцна палюбіў. Гэта выклікала злосьць усёй стаі лебедзеў і два лебедзі забілі лябёдку здрадніцу. („О. і Р. С.").

**Атручваюць рыбу.** У Беларусі прынята мачыць пяньку ў рэчках, дзе плодзіцца рыба. У нашым Бабруйскім раёне працякае рэчка Добосьня. Там шмат рыбы ўсякай пароды, нават зьявіліся самы. Але там мочаць пяньку і рыбы становіцца ўсё менш і менш. Рыба зьнішчаецца. Хіба нельга мачыць пяньку ў лужынах, і іншых мясцох, дзе няма рыбы. **Шмялёў А.**

**Ваўкі шкодзяць.** На хутары Стаўпня (Уваравіцкі раён, Гомельшчына) ваўкі задушылі некалькі коняй і кароў. У в. Барвенаўка, Альхоўка і Чабатовічы за адзін дзень ваўкі задушылі некалькі авечак. Таксама душаць жывёлу ваўкі і ў іншых раёнах.

Паляўнічыя ня прымаюць ніякіх мер. Аблаў не праводзіцца. Пакуль зьбяруцца зрабіць хоць адну аблаву, дык ваўкі пачнуць цягнуць самых паляўнічых. **Дзед.**

**Воўк у вёсцы.** 25 лістапада мінулага году ў в. Пакрова, Гарохавецкага раёну, Уладзімірскай акругі, забег удзень воўк, самка пераярак, і мясцовымі сялянамі быў загнаны ў адзін з завулкаў, дзе яму было адрэзана ўсякае адступленьне. Воўк параніў некалькі чалавек. Удалым ударам кала па галаве воўк быў забіты. Пры ўскрыцьці яго вэтурачом адзнак шалёнства ня знойдзена. („О. Г.")

# НОВЫЯ ЗАКАЗЬНІКІ

## Пастанова НКЗемляробства

1930 году, сакавіка 25 дню.—Наркомземляробства пастанаўляе арганізаваць, тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 15 сакавіка 1930 г. па 15 сакавіка 1935 году, па Менскай акрузе наступныя паляўнічыя заказьнікі:

1.—У Пацінроўскай дачы Смалявіцкага лясьніцтва кв. кв. № 1-34, 36-45, 51-60, 67-76, 82-89, 91-96, 99-100 з уключэньнем пад заказьнік усіх зямель с. г. карыстаньня, якія знаходзяцца ў межах памянёных кварталаў, усяго на плошчы каля 7.100 га.

Пасьбу скаціны дазволіць на адпаведных вучастках кв. кв. №, 1-8, 36-37, 51-52, 67-69, 82-83, 91-92, 99-100.

2.—Слабоцкай дачы Глівенскага лясьніцтва на плошчы 3.533 га ў межах: з усходу—чыгуначная лінія Жодзіна-Тупік, дарога ад тупіка да хут. Сьвятое; з поўдня—дарога хут. Сьвятое-Кленьнікі (да мяжы Смалявіцкага л-ва з уключэньнем пад заказьнік 23 і 24 кв. кв. Забашэвіцкай лясной дачы; Смалявіцкае лясь-ва; з захаду—Смалявіцкае лясьніцтва; з паўночы—землі мэліярацыйнага фонду, з уключэньнем пад заказьнік возера Судобаль.

Наркамземляробства **Масюкоў.**

Сябра Калегіі НКЗ **Пятрушын.**

## Пастанова НКЗемляробства

1930 г. лютага 5 дню.—Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе: арганізаваць у Мазырскай акрузе наступныя паляўнічыя заказьнікі на тэрмін з 1-га лютага 1930 году па 1-га лютага 1935 году

1) У Махнавіцкай дачы Буйнавіцкага лясьніцтва кв. №№ 45-47, 55-57, 67-69 і 80 і Махнавіцкай дачы Мялешкавіцкага лясьніцтва кв. №№ 48-50, 58-60, 70-72, 81-83, 90-92, 99-101, 105-107, 111-113, 117-118 і 122 (па даным абсьледваньня 1926 г.)—ўсяго на плошчы 4.488 га.—

2) У Сьнядзінскай дачы Прыпяцкага лясьніцтва (па даным абсьледваньня) кв. №№ 1, 2, 4, 5-6, 10 і 11—ўсяго на плошчы 2.500 га.

Зам. Наркамземляробства **Панімашка П. П.**

Лясное Кіраўніцтва **Пятрушын І. Я.**

Інспэктар паляўнічай гаспадаркі **Дзярыба.**

# ПЕРАПІСКА З ЧЫТАЧОМ

**А. Літвінаву.** Паляваньне калгасьнікамі будзе ўтварацца таксама, як і рабочымі фабрык ды заводаў у вольны ад работы час. Па згодзе з праўленьнем калгасу можна будзе (асабліва ўзімку), учыняць паляваньне і ў невыхадныя дні з тым, каб іх адрабіць пасьля.

Здабыча ад паляваньня ідзе ў карысьць паляўнічага. Пушніна павінна здавацца саюзу паляўнічых ці іншым асноўным загатавіцелям.

**А. І. Кранюку**—на тое і заказьнік, каб у ім не палявалі. Паляўнічы, які жыве на тэрыторыі заказьніка, павінен праходзіць праз заказьнік па дарозе агульнага карыстаньня з ненабітай стрэльбай і сабаку павінен весьці на прывязі. Барацьбу з драпежнікамі павінны праводзіць ня толькі лясьнікі, а і паляўнічыя. Паляваць каля заказьніка можна, але калі сабака пойдзе ў заказьнік, трэба яе адклікаць. Прыстрэльваць стрэльбу можна толькі не ў населеных пунктах і не ў заказьніку.

**А. І. Зялёнаўскаму.**—Рэвальверы розных сыстэм можна купіць у спартыўным т-ве „Дынамо". Для набыцьця рэвальвера трэба мець дазвол ад ДПУ.

№ 6

Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопісь „Белкохотсоюза“

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

ЗЬМЕСТ



# Пяцігодка ў чатыры гады

„Пурпурнасьць з лілёвасцю
Вечар саткаў“
У век электрычнасьці, радыё...
Лісьцем ўсьцілаўся
Упрыгожаны шлях...
Напярад ішлі брыгады...
І вышаў на пожню
Тады маладзік
І стаў над кваціцістаю пожняй
І толькі сказаў:
—У бой брыгадай ідзі,
Ў астатні!
Хадой пераможнай.
Дзе мора шуміць...
Дзе сірэна чутна,
Напрад імчыць параход—
Пралетары ня сьпіць,
Яго мэта адна:
— Пяцігодку ў чатыры
Год!—
Прарокі з узвышша
Прарочаць нябыт...
І толькі... якая наўда!
Пытаньне па-сталінскі:
—Быць ці ня быць.—
...Дабранач ім прыдзецца
Даць.

***

За вярстой набягае вярста,
... Праз якіх-небудзь некалькі год
Загрыміць навальніцай:
— Паўстань!—
І выпроствае радасьць мой стан,
І напорней, імпэтней ход...
І вярста прамінае вярсту,
Як на моры, у скалах—
Буруны...
І пачуцьці мае растуць:
У акордах наладжаных струн,
Я ўбачыў аснову КАМУНЫ.
За адхон ня імчацца вятры...
То сьпяваюць нам золкія ветры
І імчыцца наш кліч
Па сусьвету,
Як на моры бязьмежным ветразь...
Сонца нам пацалунак шле ветлы...
І вярста прамінае вярсту,
Ў астатнім магутным
Ходам...
Рыштаваньні ў краіне растуць
У акордах наладжаных струн,
Голас чуецца
Ўдарных заводаў:
—Засталася адна вярста,
Хутка пусьцім па ёй цягнік!
Нашы рукі ня рукі,
А сталь!
Пралетары імкнецца у даль,
Дзе гараць КАМУНІЗМУ агні!

**Язэп Вазёрны.**

9/VII—30 г.
г. Менск.

# Рэалізуем заём „ПЯЦІГОДКУ Ў ЧАТЫРЫ ГАДЫ“

Пытаньню мобілізацыі ўнутраных рэсурсаў краю, у прыватнасьці пытаньню дзяржкрэдыту, партыя і Савецкая ўлада надаюць вялікае значэньне. Гэта тлумачыцца неабходнасьцю падвядзеньня фінансавай базы пад пяцігадовы плян будаўніцтва сацыялізму ў нашым краі і ажыцьцяўленьня лёзунгу шырокіх рабочых мас аб выкананьні „пяцігодкі за чатыры гады“.

Пралетарыят Саюзу добра ўлічвае, што мы можам разьлічаць у справе сацыялістычнага будаўніцтва толькі на свае сілы. Гэтым, галоўным чынам, і тлумачыцца выключны посьпех, якім карыстаюцца дзяржпазыкі сярод шырокіх мас працоўных. Трэба падкрэсьліць, што працоўныя падпісваюцца на нашы пазыкі ня толькі таму, што яны выгодныя, а галоўным чынам і больш за ўсё таму, што працоўныя сьвядома імкнуцца прымаць актыўны ўдзел у будаўніцтве сацыялізму,

Працоўныя нашага Саюзу ведаюць, што дзяржаўныя пазыкі ў нас ідуць выключна на вытворчыя патрэбы, на індустрыялізацыю краю, на ўзмацненьне тэмпу колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у адрозьненьне „ад капіталістычных краёў, дзе большая частка пазыкі ідзе на ваенныя патрэбы“.

3-я пазыка індустрыялізацыі была рэалізавана ў БССР з вялікім посьпехам. БССР заняла па выкананьні кантрольнага заданьня першае месца ў Саюзе—кантрольнае заданьне было выканана на 156 проц.

Асабліва важнай задачай зьяўляецца пасьпяховае разьмяшчэньне новай пазыкі на вёсцы. Грошы вёскі мала ўцягнуты яшчэ ў дзяржаўныя каналы. 3-я пазыка індустрыялізацыі, як мы паказалі вышэй, рэалізавана на вёсцы на 1 мільён 700 тысяч рублеў ці 97 проц. заданьня. Лічба гэта малая і можна сьмела сказаць, што ў асноўным вёска амаль што не ахоплена нашымі пазыкамі. Нам прыдзецца разгарнуць шырокую кампанію на вёсцы для таго, каб ня толькі выканаць тыя кантрольныя заданьні, якія мы маем для вёскі (2 з паловай мільёны рублёў), але значна іх перавыканаць.

Рэалізацыя пазыкі па БССР пачынаецца з 15 ліпеня. З гэтага-ж часу пачнецца і абмен аблігацый 1 і 2 пазыкі індустрыялізацыі і пазыкі ўзмацненьня сельскае гаспадаркі на аблігацыі пазыкі „пяцігодку ў чатыры гады“. Аблігацыі старых пазык абменьваюцца галоўным чынам, зыходзячы з інтарэсаў трымальнікаў пазык з тым, каб значна спрасьціць і даць магчымасьць лепш сачыць за выйгрышамі, атрымаць проціанты і г. д. Па аднэй пазыцы лягчэй арыентавацца, чым па чатырох. Апрача таго, абмен робіцца ў мэтах патаненьня кошту выпуску пазыкі для дзяржавы. Пры абмене ўсіх аблігацый захоўваюцца выгады пазыкатрымальнікаў і забясьпечваюцца выйгрышы і проціанты па аблігацыях пазык, якія абменьваюцца.

Каб пасьпяхова выканаць стаячыя перад намі задачы, мы павінны зараз-жа разгарнуць вялікую растлумачальную працу. Там, дзе будуць сходы калектываваў, неабходна абгаварыць гэтае пытаньне на сходах, а таксама і ячэйках. Наш лёзунг—ніводзін паляўнічы без пазыкі.

# Гістарычны пленум „Белкохотсоюза“

20—22 чэрвеня адбыўся пашыраны пленум ЦП „Белкохотсоюза“, які па важнасьці разгледжаных ім пытаньняў ня ўступае VIII Зьезду. На пленуме прымалі ўдзел, апроч членаў праўленьня, 5 старшынь раённых таварыстваў, якія перайшлі на гаспадарчы разрахунак. Праца пленуму праходзіла вельмі дзелавіта, пры самым актыўным удзеле іх прысутных. Пленум даў дырэктывы праўленьням, якімі яны і павінны кіравацца ў сваёй штодзённай практычнай працы.

Галоўная з іх — гэта па пераходу ўсёй сыстэмы паляўнічай каапэрацыі ад гандлю да прамысловага вядзеньня паляўнічай гаспадаркі. Калі да гэтага часу мы займаліся галоўным чынам гандлем, дык зараз усе акруговыя і раённыя т-вы павінны дабіцца пералому ў сваёй працы з тым, каб з гандлю перайсьці да прамысловага вядзеньня гаспадаркі.

Другой важнейшай пастановай пленуму зьяўляецца пастанова аб канчатковай ліквідацыі акруговых праўленьняў, з перадачай усіх сродкаў і функцый раённым т-вам. Пытаньне аб ліквідацыі акруговых т-ваў узьнята ў сакавіку гэтага году, а перад пачаткам пленуму вынесена пастанова ЦК УсеКП(б) аб ліквідацыі акруг. Ня гледзячы на гэта на пленуме знайшліся таварышы, якія лічылі ліквідацыю акруг немэтазгоднай. Старшыні акртаварыстваў Віцебску і Магілёву ўбачылі ў ліквідацыі акруг сьмерць, пагібель і поўную ліквідацыю паляўнічай каапэрацыі. Гэтыя таварышы казалі, што раёны зусім яшчэ не падрыхтаваны для самастойнай працы і без дапамогі акруг працаваць ня змогуць. Пленум не згадзіўся з выступаючымі, няверуючымі ў сілы і ініцыятыву паляўнічых мас. Пленум давёў, што само жыцьцё патрабуе ад нас наближэньня апарату паляўнічай каапэрацыі ў раёны, што сыстэма працы акртаварыстваў зьяўляецца тормазам разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі і раённыя калектывы і ячэйкі вельмі дрэнна абслугоўваліся.

Устаноўлена, што пры сыстэме акртаварыстваў маса была адарвана ад органаў паляўнічае каапэрацыі, што акруговыя праўленьні нясуць страты, у той час, як раённыя таварыствы, перайшоўшыя на гаспадарчы разрахунак, усе маюць прыбытак і не парываюць сувязі з паляўнічай грамадзкасьцю, прыцягваючы грамадзкія сілы і сродкі паляўнічых на карысьць паляўнічай гаспадаркі шляхам самаабкладаньня, добраахвотных узносаў і інш.

Дырэктыва цэнтральнага праўленьня аб арганізацыі паляўнічых ячэек у калгасах, саўгасах і прадпрыемствах акругамі зусім ня выканана, таксама як ня выканана дырэктыва і аб трусаводзтве і кантрактацыі трусоў большасьцю акруг. Усё гэта гаворыць за тое, што пры сыстэме акртаварыстваў мы і ў далейшым ня зможам абслугоўваць раёны і выконваць дырэктывы партыі і Савецкай улады.

Аб гадоўлі трусоў на пленуме шмат было спрэчак. Некаторыя таварышы паказалі на недахоп сродкаў, на немагчымасьць разьвіваць гадоўлю трусоў бяз сродкаў і будаваць трусятнікі. Але пасьля таго, як увесь склад пленуму пабываў на экскурсыі ў саўгасе „Сеніца“, калі кожны ўбачыў як гадуюцца трусы, тады ўсе ўдзельнікі пленуму аднагалосна рашылі, што для таго, каб гадаваць трусоў, трэба зусім мала сродкаў і справу гадоўлі трусоў можна разьвіваць вялікімі тэмпамі.

Пленум ухваліў прынятыя праўленьнем крокі па ўтварэньню ўсесаюзнага цэнтру паляўнічай каапэрацыі, а таксама прызнаў неабходным арганізацыю наступных майстэрняў у цэнтры: скарняжнай, аружэйнай і па выпрацоўцы талерачак для спартыўнай стральбы.

Пастановы пленуму адпавядаюць дырэктывам партыі і Савецкай улады па пытаньнях набліжэньня апарату да паляўнічых мас, па павялічэньню тэмпаў працы, якія вымагаюцца жыцьцём для зьмякчэньня мяснога крызысу і павялічэньня нарыхтовак пушніны.

Будзем спадзявацца, што агульнымі сіламі ўсіх паляўнічых Беларусі пастановы пленуму будуць выкананы ў бліжэйшы час, і саюз паляўнічых будзе ў першых шэрагах па выкананьню дырэктыў Камуністычнай партыі і Савецкай улады.

**Сільнікаў.**

# За нарыхтоўку дзічы, мяса і грыбоў

Галоўным промыслам паляўнічых Беларусі зьяўляецца—паляваньне. Але, апроч паляваньня, кожны паляўнічы можа займацца і падсобным промыслам. Паляўнічы можа лавіць для экспарту зьвяроў і птах, не забароненых да адстрэлу і ў тэрміны паляваньня, зьбіраць пух і пяро, лекавую сыравіну, мёд і воск. Для нашае прамысловасьці зьбіраць скуры з зьвяроў, таксама дазволеных да адстрэлу і ў тэрміны паляваньня. Павінен загатаўляць мяса птах і зьвяроў, лясную ягаду, арэхі, сушаныя фрукты.

Раней паляўнічыя не займаліся гэтым, галоўным чынам, таму, што сыстэма паляўнічай каапэрацыі ня была падрыхтавана да нарыхтовак вышэйпаказаных прадуктаў—сыравіны і мяса. Паляўнічым ня была растлумачана ўся важнасьць гэтых апэрацый. Наадварот некаторыя кіраўнікі паляўнічай каапэрацыі і зараз яшчэ лічаць, што гэтай справай займацца паляўнічым непатрэбна. Такое тлумачэньне, бязумоўна, няверна, бо калі мы адмаўляемся ад падсобных промыслаў, гэтым самым ня хочам дапамагчы дзяржаве і пазбаўляем паляўнічых мець дадатковы заработак.

Улічваючы, што да рэарганізацыі сыстэмы паляўнічай каапэрацыі мы ня будзем мець магчымасьці на ўсе 100 проц. выканаць гэту працу, мы зможам узяцца за яе пасьля рэарганізацыі, у 1930-31 г. Але гэта ня значыць, што мы павінны сядзець, склаўшы рукі, і чакаць 1930-31 году. Трэба падрыхтавацца да гэтага і адначасова ў гэтым годзе нарыхтоўваць мяса дзічы і грыбы.

З прычыны крызісу на мяса праўленьне „Белкохотсоюза“ заключыла ўмову з Белкаапсаюзам на пастаўку мяса дзічы, якая здабываецца паляўнічымі. „Белкохотсоюз“ мяркуе здаць Белкаапсаюзу да 10 тысяч пудоў мяса качак і да 20 тысяч пудоў мяса зайцоў і трусоў. Дзічыну ў крамы ЦРК і Белкаап-

саюзу здаюць непасрэдна самі паляўнічыя. За здадзеную дзічыну паляўнічыя атрымліваюць у лік платы прэмію, згодна дагавору, зьмешчанага ў гэтым нумары часопісі. Для таго, каб нарыхтаваць больш дзічы ў гарадох, прэмія за здадзеную дзічыну у крамы ЦРК напалову больш, чым у крамы спажывецкага таварыства ў сельскіх мясцовасьцях.

Паляўнічым неабходна зьвярнуць належную ўвагу на нарыхтоўку мяса. Яны павінны выканаць ўзятыя на сябе абавязкі і здаваць дзічыну ў каапэрацыю.

Згодна пастановы Наркамгандлю СССР, паляўнічая каапэрацыя БССР павінна нарыхтаваць 32 тоны сушаных грыбоў. Раённыя таварыствы, апроч сушаных грыбоў, могуць іх саліць і марынаваць. Цэны на грыбы наступныя: сушаныя ад 80 кап. да 5 р. 70 к. за кілёграм, марынаваныя і салёныя—50 к. за кгр. Тыя раённыя т-вы, якія не падрыхтаваны да загатоўкі, самі павінны прыняць самы актыўны ўдзел у зборы грыбоў. Яны павінны ўзьняць масу да гэтае работы, арганізоўваць брыгады па 25-40 чалавек, уцягваць школы, камсамольцаў, піанэр-атрады і г. д. Грыбы могуць замяніць мяса, а таму неабходна ўсім паляўнічым актыўна ўдзельнічаць у нарыхтоўцы грыбоў, каб забясьпечыць краіну дарэмным, але каштоўным прадуктам.

Кожны паляўнічы павінен здаваць у каапэрацыю лішнюю дзіч. Кожны паляўнічы і яго сям'я павінны прыняць удзел у нарыхтоўках грыбоў.

Сільнікаў.

# Драпежнік—вораг паляўнічай і сельскай гаспадаркі

У нас вельмі мала зьярталася ўвагі на барацьбу з пярнатымі драпежнікамі і амаль нічога не рабілася для таго, каб, урэшце, і падняць гэту барацьбу з ворагамі ня толькі паляўнічай гаспадаркі, але і сельскай і лясной. А часта здаралася і зараз здараецца, што пад відам шкоднага драпежніка забівалася самая карысная птаха для сельскай і лясной гаспадаркі. Былі выпадкі, калі замест шэрай вароны, для залічэньня балаў, паляўнічы прыносіў галак ці грачоў. А колькі выбіваецца нашымі паляўнічымі грумкачоў (воран). Яшчэ і дагэтуль гэту птаху лічаць драпежнікам. А ці ўсякі гарадзкі паляўнічы ведае, што конюх і амаль што ўсе нашы совы зьяўляюцца сябрамі сельскай і лясной гаспадаркі? А колькі гіне гэтых ні ў чым непавінных карысных нам птах?

У паляўнічых „рукі чэшуцца", яны ня могуць стрымаць свой пал, ня могуць ня выстраліць па ўсяму жывому, што ляціць ці бяжыць на яго шляху, а тым часам, карысная птахі, карыснага драпежніка, які так шмат вылаўлівае мышэй і іншых шкодных для сельскай і лясной гаспадаркі стварэньняў, становіцца з кожным годам усё менш і менш. А ці менш становіцца ад стрэлаў паляўнічых шкодных драпежнікаў? Бязумоўна, не. Сама прырода ўзяла пад ахову гэтых шкодных драпежнікаў. Шкодны драпежнік, як ястрабы—цецяравятнік і перапялятнік—жыве амаль выключна за кошт іншых птах (цецярукоў, пардвы, качак, зайцаў і інш.), а таму ён прымушан і гнездавацца ў вялікіх масывах лясоў. Карысны драпежнік, як конюх і совы, жывуць, галоўным чынам, за кошт дробных млекаедных (мышы, сусьлікі і інш.), а значыць гэтыя птахі і гнёзды робяць недалёка ад поля, ад пахацяй, сенажацяй і ім падобных. Як раз у такіх мясцох улетку і ўвосень і прыходзіцца, галоўным чынам, быць паляўнічым з стрэльбай, ад якой шмат і гіне гэтых драпежнікаў.



Цецеравятнік.

Праўда, павінны ў гэтым ніхто іншы, а самі паляўнічыя арганізацыі, асабліва „Белкохотсоюз", што ня вёў ніякай культурнай работы сярод нашай някультурнай у гэтых адносінах паляўнічай масы. Нават у цэнтры—у Менску—і то няма паляўнічага кутка, дзе паляўнічы мог-бы бачыць наглядна драпежніка і пазнаць, які шкодны і чым, а які карысны. Нават у часопісі „Паляўнічы Беларусі", якая зьяўляецца галоўным аружжам выхаваньня мас у нашых умовах, ня было ні слова аб гэтым. А мы крычым—зьнішчай драпежнікаў! От і зьнішчаем самых карысных нам птах.

На першых парах мы павінны ўзьняць кампанію праз часопісь, каб адстрэльваліся шкодныя драпежнікі, а не карысныя. Праўленьню „Белкохотсоюзу" трэба ўлічыць, на колькі тысяч рублёў мы прыносім шкоды сельскай і паляўнічай гаспадарцы, адстрэльваючы карысных драпежнікаў і пакідаючы шкодных, і выдаць брашуру, у якой-бы былі паказаны шкодныя і карысныя драпежнікі і на малюнках.

Кожны паляўнячы павінен ведаць, што галоўнымі пярнатымі шкоднымі драпежнікамі зьяўляюцца наступныя:

**Ястраб-цецеравятнік** (гл. мал. 1)—здаравенная птаха, разьмер крылаў у размаху—больш мэтра. Самка больш за самца. Верхняя частка цела чарнавата-шэра-бурая, з пепельным адценкам. Ніжняя



Перапялятнік.

частка цела белая, кожнае пяро размалёвана бурavата-чорнымі рыскамі, дзюба рогавага чорнага колеру, ногі жоўтыя. У маладых ястрабоў верхняя частка цела бурая, на кожным пяру іржава-жоўтая кайма і плямы, ніжняя частка іржава-рыжаватая, пазьней іржава-белаватая з прадаўгаватымі бурымі плямамі. Дзюба, вочы, васкавіца і нага сьвятлей, чым у старых птах. У палёце цецеравятнік розьніцца ад іншых птах даўжыней хваста, кароткімі крыламі, трохі разьвёрнутым хвастом.

**Ястраб-перапялятнік** (гл. мал. 2) — даўжыня 32 сант., размах крылаў 64 сант., даўжыня крыла 20 сант. і хваста 15 сант. Самка больш за самца. У дарослых птах уся верхняя частка цела чарнавата-пепельна-шэрая, ніжэй бок белы, з іржава-рыжымі няроўнымі рыскамі, якія ў самца больш выдзяляюцца, чым у самкі. Маладыя—зьверху шэравата-бурыя, зьнізу белыя з бурымі прадаўгаватымі рыскамі на горле і на пярэдняй частцы шыі і з папярэчнымі плямамі на жываце і галёнках. Дзюба блакітная, васкавіца жоўтая, радужная абалонка залаціста-жоўтая, нага сьветла-жоўтая. Палёт яго вельмі шпаркі і лёгкі.

**Балотны ці камышовы лунь** (гл. мал. 3) бывае рознай афарбоўкі, у залежнасьці ад узросту, часу году і пола. Так, напрыклад, у дарослага самца пер‘е на ілбу і цемені маюць буравата-жоўтыя каёмкі, на апошняй, верхняй частцы цела—кафэйна-бурага колеру, шыйкі і горла—бледна-жоўтага, з больш цёмнымі ствaламі, пер‘е на пярэдняй частцы грудзей жаўтавата-бурае з прадаўгаватымі плямамі, а на апошняй ніжняй частцы цела ржава-рыжыя, але на канцох сьветлыя. Махавыя пер‘я першага разраду чорна-бурыя, частка махавых пер‘яў другога разраду і вялікія крыючыя пер‘я крыла пепельна-шэрага колеру, рулявыя—больш сьветла-шэрага колеру з рыжаватым налётам і зьнізу белаватыя. Балотны лунь даўжынёй бывае 55 сант., размах крылаў 136 сант., даўжыня крыла 43 сант. і хваста 24 сант. Самка на 3—4 сант. даўжэй і шырэй на 7—9 сант. за самца. Днём бывае на балоце ў чароце. Лунь ня любіць лётаць і больш сядзіць на тоўстых сьцяблох чароту, плаваючых кавалках дрэў і г. д. Гняздо сваё робіць на купінах у траве ці каля берагу ў асацэ.

**Філен**—гэту птаху апісваць няма патрэбы, яна кожнаму паляўнічаму вядома.

Памянёныя драпежнікі прыносяць шмат шкоды. Яны паядаюць усіх птах, пачынаючы ад глушца і канчаючы в‘юркамі і, апроч таго, зайцаў. Кожны паляўнічы павінен ведаць іх і с т р э л я г о п а в і н е н б ы ц ь м е т к і м п а г э т ы х д р а п е ж н і к а х, а не па карысных.

**Драч.**



Камышовы лунь.

# Культурная гаспадарка „Белкохотсоюза“

*(Дабрамысль, Віцебскай акругі)*

Гаспадарка знаходзіцца ў Лёзьнянскім раёне Віцебскай акругі у 4 з пал. кілёмэтры ад м. Дабрамысьля. Плошча гаспадаркі раўняецца 5.000 га ляснога масыву на 1/4 хваёвых парод (галоўным чынам сасонка) і на 1/4 лісьцяных і зьмешаных парод.

Па краю гаспадаркі працякае р. Чэрніца, унутры маецца некалькі малых рэчак і канаў, якія захавалі ваду нават у гэга сухое лета. Увесь лес малады, вырасшы за апошнія 8—10 год пасьля вырубкі. Зараз таксама ідзе вырубка, галоўным чынам, на дровы, якую неабходна спыніць, бо ўжо зараз дрэвы таўсьцей за 18—20 сант. пападаюцца рэдка і далейшая вырубка яго, памойму, зьяўляецца проста пагубнай для нашай лясной гаспадаркі, не гаворачы аб тым, што такая вырубка вельмі шкодна для паляўнічай гаспадаркі.

У гаспадарцы трымаецца шмат зайца-русака беляка, вавёркі, лісаў, цецярукоў, рабчыкаў, ёсьць глушцы, выдры, павінны быць норкі. У 1929 годзе быў мядзьведзь, але відаць перабраўся ў суседзкі Высачанскі раён з прычыны вырубкі лесу ў гаспадарцы. Летась быў заўважан уход з гаспадаркі вавёркі. Гэта тлумачыцца недародам арэхаў і шышак на сасонках і елках. У гэтым годзе ўраджай арэхаў і шышак павінен быць здавальняючы і баяцца перакачоўкі вавёрак пакуль нечага.

У Паўночна-усходняй частцы гаспадаркі, у кварталах 3, 6. 7, 10, 11, 16, 20, і 29 ёсьць густыя зарасьлі маладога лесу ўсякіх парод з вельмі добрым падлескам і невялічкімі сенажацямі—пашамі. У такіх мясцох найлепш можа трымацца лось і дзікая каза. Тут неабходна падсадзіць гэтых зьвяроў. Вопыт Украінскага саюзу паляўнічых у 1929 годзе паказаў, што адлоў і пасадка ў другіх угодзьдзях казы даў вельмі добрыя вынікі і гэты вопыт, утвораны ва ўгодзьдзі „Галоўе“, Першамайскае акругі УССР, нам неабходна выкарыстаць, тым больш, што ўсе магчымасьці для гэтага ў нас ёсьць.

Неабходна, апроч таго, зьвярнуць увагу на разьвядзеньне ў гаспадарцы шэрай курапаткі. У гаспадарцы ёсьць усё неабходнае для гэтага і завесьці і ахоўваць яе тут вельмі лёгка. Гэта справа дала-б нам магчымасьць адлаўліваць курапатку для экспорта і для падсадкі ў пустуючых угодзьдзях.

Падкормка зайца ў гаспадарцы ўчынялася шляхам арганізацыі кармушак, якія ёсьць і зараз, толькі некаторыя з іх былі зьнішчаны пажарам у гэтым годзе. Пажары сёлета ўзьнікалі ў гаспадарцы даволі часта, але, дзякуючы сваячасова прынятым мерам, выгаралі невялікія вучасткі і асаблівай шкоды паляўнічай гаспадарцы гэтыя пажары пакуль ня прынесьлі.

Мне здаецца, што існуючых кармушак для падкормкі зайца і мясцамі цецярука—недастаткова—неабходна на зіму арганізаваць кармавыя палі, якімі з посьпехам маглі-б карыстацца ўсе



Трусятнік „Белкохотсоюза“ ў Дабрамысьле.

зьверы і птахі гаспадаркі. Да ліку расьлін, якія можна сеяць, я аднёс-бы: азімую віку, лубін, канюшыну, авёс. грэчку, жыта і інш. у выглядзе зьмешаных пасеваў гэтых расьлін.

Пры арганізацыі кармушак і кармавых палёў, трэба будзе сваячасова паставіць пытаньне і аб адстрэле вядомага проценту лісіц у заказьніку, бо, па-першае, яны зьнішчаюць шмат зайцаў і пярнатай дзічы, а па-другое—гаспадарка ўжо адразу будзе даваць прыбытак шляхам павялічэньня здабычы лісаў для экспарта. Адстрэл-жа, напрыклад, з сьцяжкамі ніякае шкоды гаспадарцы не прынясе. Неабходную колькасьць гэтага драпежніка для роўнавагі ў прыродзе гаспадаркі заўсёды можна захаваць. Мне здаецца, што настала пара наогул абмеркаваць пытаньне аб адстрэле лісіцы ў заказьніках. Апроч таго, неабходна аслупаваць усю паляўнічую гаспадарку і папрыбіваць „ахранныя дошкі“ хаця-б на больш відных мясцох, каля населеных пунктаў і на перакрэстках дарог.

Унутры гаспадаркі на „Лысай гары“ ёсьць некалькі хутароў, об высяленьні якіх зараз вядзецца ў судзе справа, „Белкохотсоюзу“ і НКЗ неабходна прыняць усе меры для высяленьня гэтых хутароў, бо яны прыносяць паляўнічай гаспадарцы шмат шкоды і перашкаджаюць праводзіць у жыцьцё мерапрыемствы па будаваньню гаспадаркі.

У гаспадарцы ўчыняюцца пасевы ахоўваючых і падкормачных расьлін: жарнавец, дзікі вінаград, сахалінская грэчка, аблепіха, але пакуль толькі ў выглядзе вопыта і атрыманьня насеньня. Нашы замаразкі пераносіць добра толькі адзін жарнавец, а апошнія расьліны, як прышлося назіраць, памёрзлі і зараз даюць адросткі ад корня. Гэтыя вопыты дадуць магчымасьць ня толькі атрымаць насеньне, але і навучыцца вырашчваць гэтыя расьліны, але галоўным чынам пакажуць, якія з расьлін найбольш падыходзяць да нашых кліматычных умоў.

Спачатку гэтага году ў гаспадарцы прыступлена да разьвядзеньня дзічы і гадоўлі зьвяроў. Утвараюцца вопыты па адзічаньню і разьвядзеньню на волі сьвіней, для чаго трымаюцца ў абгароджаным вучастку леса на волі два парасёнкі, па афарбоўцы і складу цела падобныя да дзікіх сьвіней. Парасёнкі будуць выпушчаны на поўную свабоду, пры неабходнай, вядома, падкормцы. Неабходна было-б адлавіць і перасадзіць у гаспадарку кабаноў з маладняку, якія ёсьць у іншых акругах.

Выпісаны фазаны—4 самкі і 2 самцы, якія ўжо вясной 1931 г. дадуць дастаткова яек для штучнай вывадкі фазанаў. Сёлета было закуплена ў Ленінградзкім фазаньніку 50 шт. фазанавых яек, з якіх вывелася 16 фазанаў—усе фазаняты здаровы і разьвіваюцца нормальна. Параўнаўча малы процант вышаўшых фазанят тлумачыцца тым, што пры перасылцы і наогул захаваньні, яйкі, вядома, перабоўтваюцца, ад чаго і паменшылася колькасьць выхаднога маладняку. Наяўнасьць старых фазанаў дасьць магчымасьць атрымаць яйкі на месцы і процант выхаду маладняку павялічыцца.

У сучасны момант у гаспадарцы абсталёўваецца трусятнік: адбудоўваюцца памяшканьні, робяцца клеткі. Ужо ёсьць каля 150 трусоў маладняку ва ўзросьце 2—4 месяцаў мясцовых парод, пяць старых самак ужо далі прыплод. Трусы ўтрымліваюцца ў клетках пад адкрытым небам, частка на волі. 22 чэрвеня паступіла ў гаспадарку 10 племяных самцоў—шэншыля і белых веліканаў, высланых „Белкохотсоюзам“ Трусоў мяркуецца трымаць па 100 клетак у памяшканьні, што выключае магчымасьць перадачы заразы розных хвароб і палягчае назіраньне за імі. Адсутнасьць матэрыялаў і адпаведнай рабочай сілы надта перашкаджае арганізацыі трусятніка, але ўсё-ж-ткі ёсьць упэўненасьць, што да восені трусятнік будзе гатоў. Вядуцца вопыты па вырабу клетак для трусоў найбольш таннага гатунку, усё гэта будзе праверана на практыцы і магчыма, што да вясны наступнага году трусятнік будзе задав лены за невялікую цану стандартнымі клеткамі, аб масавым вырабе якіх „Белкохотсоюзу“ трэба будзе падумаць.

Справа зьверагадоўлі наогул, а гадоўлі трусоў—у прыватнасьці, справа новая ў БССР, але ёй належыць вялікая будучыня і неабходна прыняць усе меры, каб яна разьвівалася паспяхова. Гадоўля трусоў павінна прасоўвацца ў масы, а зрабіць гэта магчыма толькі пры дастатковай колькасьці племяннога матэрыялу і падзешаўленьня асноўнага спосабу ўтрыманьня трусоў—клетак.

**Б. Сушкевіч.**



Агульны выгляд трусятніка „Белкохотсоюза“ ў Дабрамысьле

# Паляўнічая гаспадарка Віцебскай акругі

Да гэтага часу ў нашых заказьніках дзіч толькі гадавалася. Праўда, былі вопыты падкормкі шэрай курапаткі. У гэтым годзе ўпяршыню пачаліся вопыты па арганізацыі кармовых палёў у заказьніках для дзічы і зьвера ўлетку і ўзімку. Ужо засеяна некалькі такіх палёў на 1—1½ *га* на кожныя 500 *га*. заказьніка.

У першую чаргу зроблены падсеў для падкормкі зайцаў і трохі цецярукоў і шэрай курапаткі. Трэба адзначыць, што ёсьць недахоп насеньня, а таму разгарнуць гэту работу ў шырокім маштабе не ўдаецца. З гэтае прычыны прыходзіцца карыстацца насеньнем жыта, аўса, канюшыны, яравой вікі, грэчкі і галоўным чынам жарнаўца. Кармавыя палі,

як наогул усякае мерапрыемства, якое праводзіцца ў нас у пяршыню, па арганізацыі культурнай паляўнічай гаспадаркі, будуць мецца недахопы. Але на гэтым нам трэба вучыцца.

Другая чарга кармавых палёў будзе засеяна на працягу жніўня, каб забясьпечыць зайца кормам на восень, зіму і вясну.

Апроч гэтых мерапрыемстваў, па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі трэба адзначыць забарону паляваньня на шэрую курапатку ў сэзон 1931 году, адтэрмінаваньне паляваньня на цецярукоў і пардву да 10 жніўня, абмежаваньне адстрэлу да 5 птах цецярукоў і пардвы ў адно паляваньне на паляўнічага, забарону адстрэлу старых матак цяцерак і забарону паляваньня на ўсю пярнатую дзіч з ганчакамі ці дваравымі сабакамі. Гэтыя мерапрыемствы—першыя крокі правільнага вядзеньня паляўнічай гаспадаркі. Для правядзеньня іх у жыцьцё трэба ўзьняць сьвядомасьць паляўнічага і падтрымліваць дысцыпліну сярод членаў саюзу паляўнічых.

У зьвязку з тарфянымі распрацоўкамі і мэліарацыяй у гэтым годзе здымаецца забарона з шэрагу заказьнікаў на пярнатую дзіч у нашай акрузе. У мэтах больш рацыянальнага скарыстоўваньня гэтых заказьнікаў, паляваньне ў іх будзе дазволена толькі з 15 верасьня з захаваньнем усіх правілаў паляваньня (норма адстрэлу і г. д.).

Вось тыя мерапрыемствы, якія праводзяцца Віцэбскім т-вам у жыцьцё. Цікава ведаць, што робіцца ў гэтым напрамку ў іншых акругах, каб выкарыстаць вопыт.

**Б.**



Калгасьнікі „Комінтэрна“ на рыбнай лоўлі.

# На барацьбу з ляснымі пажарамі

Улетку вельмі шмат зьнішчаюць дзічы пажары. Узьнікаюць яны, галоўным чынам, ад неасьцярожнага абыходжаньня з агнём, а то і з мэтай шкодніцтва пускаюцца палы. Пажар ахаплівае вялікую плошчу лесу і прыносіць шмат шкоды ня толькі лясной гаспадарцы, але і паляўнічай, бо разам з лесам гарыць усё жывое—і дзіч, і зьвер.

Для таго, каб больш захавалася дзічы, каб нашы ўгодзьдзі былі ўраджайнымі на дзіч, кожны паляўнічы, кожны сьвядомы грамадзянін павінен памятаць гэта і змагацца з пажарамі і сам вельмі асьцярожна абыходзіцца з агнём. Часта акурак, ці запаленая сярнічка, кінутыя ў лесе, служаць прычынай таму, што выгараюць цэлыя масывы лесу.



Брыгада паляўнічых Брагінскага калектыву па зьнішчэньню ваўкоў.

А што зроблена ці робіцца паляўнічымі, каб зьнішчыць гэта зьявішча—лясныя пажары? Можна напэўна сказаць—нічога. А ці можа саюз паляўнічых што-небудзь зрабіць? Можа і вельмі шмат.

Паляўнічы ведае лес, любіць яго, ён яму патрэбен, як паветра, бо ня будзе лесу, ня будзе дзічы, і сьвядомы савецкі паляўнічы павінен актыўна змагацца з пажарамі.

Як-жа лепш за ўсё змагацца з пажарамі? Бязумоўна, калектывам, ячэйкай, брыгадай. Вось тут райбюро, паляўнічыя ячэйкі ў калгасе, вёсцы, саўгасе і г. д. і павінны вылучыць на выпадак пажару ў іх раёне спэцыяльныя брыгады, а калі патрэбна —мабілізаваць і ўсю паляўнічую масу.

Паляўнічая каапэрацыя, апроч таго, павінна ставіць пытаньне перад належнымі органамі (лясьніцтва) аб сваячасовай ачыстцы лесу ад лому, каб гэта ачыстка не адбівалася на паляўнічай гаспадарцы і ня спрыяла пажарам.

Кожны паляўнічы павінен ведаць, што ад стану лесу залежыць посьпех яго паляваньня і кожны паляўнічы павінен актыўна змагацца з пажарамі.

**Коц.**

# Кожны паляўнічы павінен стаць актыўным удзельнікам рэалізацыі пазыкі—„пяцігодку ў чатыры гады“

# 4.500 гадавальнікаў пушных зьвяроў у Канадзе

З прычыны значнай зацікаўленасьці да разьвядзеньня каштоўных пушных зьвяроў на працягу апошніх год у СССР цікава паглядзець на лічбы, якія паведамлены афіцыйнымі асобамі аб пушной зьверагадоўлі ў Канадзе Праўленьню міжнароднай пушной і паляўніцкай выстаўкі, адчыненай у чэрвені гэтага году ў Лейпцыгу.

У той час, калі ў Германіі налічваецца каля 350—400 розная велічыні гадавальнікаў пушных зьвяроў, у 1928 годзе лік канадзкіх гадавальнікаў зьвяроў было 4.371, з гэтага ліку на 3.676 фэрмах гадаваліся срэбрыста-чорныя лісы, на 268—норкі, на 216—андатра, на 157—еноты і г. д. У канадзкую пушную зьверагадоўлю зьмешчаны капітал у 22.613.891 даляр. З гэтай сумы пушныя зьверы каштуюць 16.113.003 даляраў. Лік гадавальнікаў зьвяроў параўнальна з 1927 г. павялічыўся на 806, г. зн. на 23 проц. Каштоўнасьць зьмешчанага за гэты-ж час капітала паднялася да 3.774.578 дал., гэта зн. на 20 проц. На працягу апошніх справаздачных 5 год лік фэрм павялічыўся на 252 проц., а ўкладзены капітал на 168 проц. Па ацэнцы спэцыялістых у 1929 г. можна чакаць яшчэ большага падвышэньня гэтых лічбаў. У 1928 годзе на гэтых фэрмах утрымлівалася 258 373 зьвяроў. Адны толькі срэбрыста-чорныя лісы падняліся з 57.961 да 71.329, норкі з 2.615 да 5.028. Нядаўна пачалі гадаваць барсукоў, якіх да канца 1928 году налічалася 2.113 галоў. Па вестках атрыманых ад гадавальнікаў зьвяроў у справаздачным 1928 годзе, было прададзена жывых зьвяроў 25.958 галоў на суму 3 760 470 дал., г. зн. на поўмільёна больш, чым у 1927 г. 92 проц. прададзеных зьвяроў складалі срэбрыста-чорныя лісы (17.136 шт.). Лік атрыманых на фэрмах і прададзеных скурак быў 30.435 штук, каштоўнасьцю ў 2.345.635 дал. 95 проц. гэтай сумы далі срэбрыста-чорныя лісы.

У Лейпцыгскай пушной і паляўнічай выстаўцы Канада паказана галоўным чынам пушной фэрмай „Кампанія Гудзонавай затокі"—самай вялікай і самай старой канадзкай пушной фэрмай.

**В. Я. Г.**

# Яшчэ аб арганізацыі паляўнічай гаспадаркі

У нумары трэцім нашай часопісі быў зьмешчаны мой артыкул „Да пытаньня арганізацыі паляўнічай гаспадаркі". Некалькі пунктаў гэтага артыкулу, як відаць, чытачы зразумелі, што я раю арганізаваць у БССР прыпісныя гаспадаркі.

### Што мы лічым зараз прыпісной гаспадаркай?

Прыпіснымі гаспадаркамі называюцца такія гаспадаркі, дзе вызначаны абмежаваны лік паляўнічых атрымлівае выключнае права паляўнічыць у якім-небудзь паляўнічым вучастку і ніякія лабочныя паляўнічыя паляўнічыць тут ужо ня могуць. Такая форма будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі зараз праводзіцца па ўсёй тэрыторыі РСФСР.

РСФСР розьніцца ад БССР большай сваёй тэрыторыяй, рознастайнасьцю насельніцтва, асабліва вялікай колькасьцю людзей, для якіх паляваньне зьяўляецца адзінай крыніцай існаваньня. Урэшце, ня ўсе паляўнічыя зьяўляюцца там членамі саюзу паляўнічых.

Усе гэтыя ўмовы мелі вялікае значэньне пры выпрацоўцы ў РСФСР форм прыпісных гаспадарак.

Паўтараю коратка прапанаваную мною схэму пабудовы паляўнічай гаспадаркі.

П е р ш а е: Паляўнічыя ўгодзьдзі рэспублікі падзяляюцца на сець паляўнічых гаспадарак, прытрымліваючыся прынятага адміністрацыйнага тэрыторыяльнага падзелу, г. зн. на акругі і раёны. Паляўнічы калектыў раёну вельмі вялікі, каб весьці адну эксплёатацыйную гаспадарку. Для гэтага плошча раёну падзяляецца яшчэ на рад больш дробных паляўнічых гаспадарак. Будзем называць іх у далейшым „вучастковымі паляўнічымі гаспадаркамі".

### Напрыклад, мы маем:

**Вёска 1 (калгас).** (Замест назвы вёскі ўмоўна пастаўлены нумар).

| | |
|---|---|
| Пахатнай зямлі | 1.100 *га* |
| Заліўных сенажацяй і балот | 400 „ |
| Лясоў мясцовага і дзяржаўнага значэньня | 650 „ |
| Вадаёмаў (рэчка) | 30 „ |
| **Сяло 3 (2 калгасы).** | |
| Пахатнай зямлі | 2.300 „ |
| Заліўных сенажацяй і балот | 2.100 „ |
| Лясоў мясцовага і дзяржаўнага значэньня | 2.500 „ |
| Вадаёмаў (рэчкі, вазёры) | 350 „ |
| **Саўгас пры сяле 3.** | |
| Пахатнай зямлі | 900 „ |
| Заліўных сенажацяй і балот | 350 „ |
| Вадаёмаў (рэчка) | 20 „ |

**Вёска 2 (калгас).**

| | |
|---|---|
| Пахатнай зямлі | 1.000 *га* |
| Сенажатных балот | 400 „ |
| Лясоў мясцовага і дзяржаўнага значэньня | 750 „ |

Угодзьдзі гэтых трох вёсак і саўгаса пры сяле № 2 (усяго плошчай у 12.850 *га*) можна было-б аб'яднаць у адну вучастковую паляўнічую гаспадарку № 1. Мы маем тут дастатковую колькасьць рознастайных угодзьдзяў: сенажацяў і балот—3.250 *га*; лесу—3.900 *га*; вадаёмаў—400 *га*; пахаты—5.300 *га*.

Ахову ўгодзьдзяў, калі правільна разьмеркаваць угодзьдзі між населеных месц, можна ажыцьцяўляць лёгка. Арганізацыя, сувязь і ядцаньне паляўнічых таксама зручная. Магчымасьці для разьвіцьця дзічы як баравой, так і лугавой і балотнай самыя падыходзячыя.

Наступную вучастковую паляўнічую гаспадарку (№ 2) можна было-б скласьці з тэрыторыі вёсак №№ 4 і 5 або зручней з № 5 і 6 і г. д.

Такім чынам уся тэрыторыя рэспублікі ў залежнасьці ад разьмеркаваньня ўгодзьдзяў, колькасьці паляўнічага насельніцтва і магчымасьцяў вядзеньня гаспадарак магла быць падзелена на сетку асобных паляўнічых гаспадарак.

Д р у г о е. У кожнай паляўнічай гаспадарцы павінен быць вылучаны невялікі вопытна-паказальны вучастак. Напрыклад, у вучастковай паляўнічай гаспадарцы № 1 ён паказаны на пляне пунктырам і займае плошчу каля 120 *га* (70 *га* лесу, 30 *га* балот, 20 *га* вазёр).

Т р э ц я е. Усе паляўнічыя прымацоўваюцца да тае ці іншае паляўнічай гаспадаркі, у залежнасьці ад таго, дзе яны часьцей за ўсё паляўнічаюць, ці па месцу жыцьця. Усе яны складаюць ячэйку гэтай паляўнічай гаспадаркі. У нашым прыкладзе да вучастковай паляўнічай гаспадаркі № 1 прымацоўваюцца паляўнічыя, якія жывуць у вёсцы № 1, сяле 2, вёсцы 3, служачыя саўгаса і лясьніцтваў, а таксама і паляўнічыя, працуючыя ў гэтым раёне больш ці менш доўгі час.

### Якую мэту мае прымацаваньне паляўнічых да вучастковых гаспадарак

Раней мы паляўнічылі бескантрольна ўсюды. Усюды былі гасьцямі, нідзе ня былі гаспадарамі. З гэтае прычыны і ня існавала нідзе паляўнічае гаспадаркі. Кожны біў, дзе і як папала. Арганізацыя вучастковых паляўнічых гаспадарак і прымацаваньне да іх вызначанага ліку паляўнічых дасьць магчымасьць разумна будаваць гэтую гаспадарку. Члены ячэйкі вучастковай паляўнічай гаспадаркі зьяўляюцца гаспадарамі гэтых угодзьдзяў, карыстаюцца пераважнымі правамі паляваньня ў

гэтых угодзьдзях і выконваюць усе мерапрыемствы, патрэбныя для пасьпяховага вядзеньня і разьвіцьця гаспадаркі. Работы гэтыя, праводзімыя як на тэрыторыі ўсяе гаспадаркі, так і спэцыяльна на вопытна-паказальным вучастку, коратка паказаны мною ў першым маім артыкуле (№ 3 „П. Б.“).

## Як трэба разумець прымацаваньне да вучастковых паляўнічых гаспадарак

Члены ячэйкі ўдзельнічаюць як поўнапраўныя гаспадары ў вядзеньні гаспадаркі (г. зн. ва ўтварэньні паляваньня) у сваёй вучастковай гаспадарцы. Апроч таго, усякі паляўнічы можа ў якасьці госьця паляўнічаць і ў іншых гаспадарках, але павінен падпарадкавацца устаноўленым правілам (аб апошніх глядзі ніжэй).

Урэшце, на вопытна-паказальным вучастку гаспадарамі зьяўляюцца выключна члены гэтай ячэйкі і ніякія госьці ні пад якім выглядам сюды не дапускаюцца. У мяне могуць запытацца, чаму неабходны для пасьпяховага вядзеньня гаспадаркі нейкія вопытна-паказальны явучасткі? Хіба арганізацыя вучастковых гаспадарак і прымацаваньне да іх паляўнічых ня дасьць гэту магчымасьць.

Думаю, што не. Трэба лічыцца з тым, што нашы паляўнічыя ня так яшчэ дысцыплінаваны, каб быць упэўненым, што кожны паляўнічы будзе захоўваць правілы і законы аб паляўніцтве і ня будзе парушаць пляну гэтае гаспадаркі. Апроч таго, і гэта самае галоўнае, у нас яшчэ няма сваіх мэтадаў вядзеньня гаспадаркі. Мы павінны іх выпрацоўваць, вывучаць на вопыце. Для гэтага ў першую чаргу і патрэбны асобныя вопытна-паказальныя вучасткі, куды не дапускаюцца ніякія выпадковыя госьці, якія могуць нарушаць так цяжка наладжаную работу.

Напамінаю, што плошча вопытна-паказальных вучасткаў устанаўляецца нязначнай у адносіне да тэрыторыі ўсяе гаспадаркі, і ня можа выклікаць супярэчнасьцяй з боку гасьцей. З другога боку і невялікая плошча ўгодзьдзяў, але з падыходзячымі ўмовамі, можа быць упаўне прыгоднай для ўтварэньня вопытных работ на гаспадарцы. Пры належнай пастаноўцы справы яна паступова пераробіцца ў лепшую частку гаспадаркі, стане расаднікам дзічы, і наогул лепшым месцам паляваньня для членаў ячэйкі.

З другога боку ніводнаму госьцю ня можа быць крыўдна існаваньне такіх „манапольных“ вопытна-паказальных вучасткаў, бо ў сябе ў сваёй вучастковай паляўнічай гаспадарцы ён мае такую самую магчымасьць.

Ня ўсе угодзьдзі аднолькавы: ёсьць багатыя дзіч'ю паляўнічыя месцы, ёсьць і бедныя ўгодзьдзі. Супраціўнікі прымацаваньня могуць паказаць на несправядлівасьць прымацаваньня аднаго паляўнічага да багацейшых угодзьдзяў, другога да бяднейшых. Такі аргумэнт аднак не вытрымлівае крытыкі, бо любы паляўнічы можа паляўнічаць у якасьці госьця ў любой гаспадарцы, у тым ліку і ў багацейшых угодзьдзях.

## Ці будзе карысьць ад арганізацыі вучастковых паляўнічых гаспадарак і прыпіскі паляўнічых параўнаўча з тым станам, у якім зараз знаходзіцца паляўнічая гаспадарка?

Зараз мы маем запаведнік, заказьнікі, некалькі культурных паляўнічых гаспадарак, забаронена вясеньняе паляваньне; рэгулююцца тэрміны і часткова адстрэл. Апроч таго, праводзіцца культурна-асьветная работа па пытаньнях паляўнічай гаспадаркі.

Пры арганізацыі вучастковых паляўнічых гаспадарак: 1) аб мэтазгоднасьці існаваньня агульна-дзяржаўных запаведнікаў і заказьнікаў ніхто супярэчыць ня будзе. Наадварот, і браканьерства, бязумоўна, стане зьмяншацца. 2) Замест некалькіх культурных паляўнічых гаспадарак, мы будзем мець цэлую сетку вопытна-паказальных вучасткаў, дзе будзе прымаць удзел усё паляўнічае насельніцтва. Гэта адно ўжо гаворыць за сябе. 3) Пытаньне аб вясеньнім паляваньні разьвяжыцца зусім проста: ёсьць дастатковая колькасьць дзічы, будзем адстрэльваць, можна будзе паляўнічаць і ўвясну, на таку, на слонку, на селязьней. Мы-ж гаворым аб умовах вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, дзе сам гаспадар ведае, што шкодна і што карысна, што магчыма і чаго нельга. На карысьць-жа гаспадаркі ў некаторых выпадках нават неабходна адстрэльваць самцоў на таку, непатрэбных селязьняй і г. д. Усё залежыць ад таго, як арганізавана гаспадарка. Вядома, пры ўмовах паляваньня, калі мы ўсе і ўсюды зьяўляемся гасьцямі, хіба магчыма дапусьціць вясеньняе паляваньне, не баючыся, што будуць павыбіты апошнія запасы нашых паляўнічых птах і зьвяроў.

4) Рэгуляваньне тэрмінаў паляваньня і % адстрэлу выльлецца ў больш жыцьцёвыя формы. Кожнае ўгодзьдзе і па характару свайму і па складу дзічы і нават па спосабу ўчыненьня паляваньня на ім глыбока індывідуальна. Што можна ў аднэй гаспадарцы, таго нельга ў другой. Меры, недапушчальныя ў аднэй гаспадарцы, патрэбны ў другой. Напрыклад, пашырэньне хвароб патрабуе ўзмоцненага адстрэлу дзічы. Ці могуць з такой задачай справіцца зараз нашы паляўнічыя, наш агульнадзяржаўны калектыў.

Паляўнічая жывёла мае ўлюбёныя месцы, куды яна імкнецца ў часы вывада маладняку, дзе яна любіць карміцца і якія важны для яе жыцьця па тэй ці іншай прычыне. Гэтыя месцы вымагаюць узмоцненай аховы ад усякіх драпежнікаў, двуногіх і інш. Тут трэба закласьці рэмізы і іншыя ахоўваючыя пасадкі. Ці зьвяртаецца зараз дастаткова ўвагі ў гэтым напрамку? Вядома, не.

5) Культурна-асьветная праца будзе лепш праходзіць. Стаўшы сапраўдным паляўнічым, інтарэсы паляўнічых будуць самымі жыцьцёвымі. Ад іх-жа саміх будзе залежыць посьпех вядзеньня гаспадаркі (іншымі словамі і посьпех паляваньня). Яны будуць




з вялікай ахвотай чытаць і вывучаць паляўнічую літаратуру па пытаньнях, якія іх цікавяць, стануць больш сьвядомымі ў адносіне паляўніцтва.

Неабходна яшчэ спыніцца на паляваньні ў якасьці госьця, г. зн. на наведваньні з мэтай паляваньня іншых вучастковых паляўнічых гаспадарак.

Тут могуць быць злоўжываньні: гаспадары могуць ня пусьціць пабочных паляўнічых ці могуць чыніць ім усякія перашкоды. Каб мінаваць гэтага, трэба ўстанавіць дакладныя правілы, якія-б вызначылі магчымасьць пусканьня „гасьцей“ у вучастковыя паляўнічыя гаспадаркі. Ступень гэта павінна ўстанаўляць:

1) Лік гасьцей, у якім можна пускаць для паляваньня ў гаспадарку ў процантным вылічэньні да ліку паляўнічых гэтай ячэйкі.

2) Час, на працягу якога госьць дапускаецца на паляваньне (дні, гадзіны). Дазвол можа выдавацца толькі на адно паляваньне, а не на некалькі наперад. Інакш лепшыя паляўнічыя гаспадаркі будуць разабраны асобнымі паляўнічымі.

3) Колькасьць дзічы, якую можа адстрэльваць госьць.

4) Спосаб паляваньня (без ганчакоў, толькі з гончымі гаспадароў, з выжлам і г. д.).

# ТРУСАГАДОЎЛЯ

## Забойства трусоў і здымка скурак

Да апошняга часу ў нас, у СССР, шмат падрыхтоўваецца трусовых скурак з шматлікімі недахопамі як ад здыманьня, сушкі, распраўкі, так і ад забойства трусоў.

У сучасны момант, калі гадоўля трусоў шпарка пашыраецца як у дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацыях, так і ў сялянскіх гаспадарках і калгасах і праводзіцца контрактацыя трусовых скурак, якасьць іх павінна быць высокай. Кожная гаспадарка, якая гадуе трусоў, павінна ведаць, што якасьць скурак паніжаецца ад: 1) няправільнага кармленьня трусоў перад убоем, 2) часу і спосабу ўбоя, 3) няпоўнага зьдзіраньня ўсіх частак скуркі з тушы труса, 4) нядбайнага здыманьня скуркі, 5) пакіданьня на скурцы мяса, тлустасьцяй, крыві, 6) няўжываньня прышчэпак пры высушваньні скурак, 7) недастатковай прасушкі ці перасушкі скурак і 8) няўмелага хаваньня скурак да продажу.

Да забою дапускаюцца трусы ў 5-месячным узросьце для дробных парод, у 6-месячным для буйных парод. Час, у які забіваецца трус, робіць вялікі ўплыў на якасьць скурак. Лепшым часам лічыцца першая частка зімы, з лістапада па люты, калі ў труса скончылася васеньняя лінька і скурка стала поўнавалосай, але яшчэ не надышла вясеньняя лінька.

Скуркі трусоў, забітых да сканчэньня ліньки, пазнаюцца па цёмных плямах, якія ўтвараюцца на мяздры скуркі, у мясцох, дзе яшчэ ня выліняў волас. У гэтых мясцох пры вырабу скуркі валасы выпадаюць. Скуркі маладых трусоў цэняцца куды менш таму, што з іх немагчыма зрабіць мех, бо рост шэрсьці канчаецца ў момант дасягненьня поўнае вагі труса. Да 5-тыднёвага ўзросту шэрсьць труса расьце параўнальна слаба, а з 5-месячн. ўзросту адбываецца шпаркі рост шэрсьці, а з моманту дасягненьня поўнае вагі труса рост поўсьці зноў слабее. Для таго, каб пазнаць ці выліняў трус, трэба падзьмуць на мех супроць поўсьці. Калі будзе відаць белая скура, значыць трус выліняў, а калі ёсьць цёмныя плямы гэта паказвае, што падшэрстак яшчэ ня вырас. Новая поўсьць пачынае расьці, уперад за ўсё, на галаве і сьпіне, пазьней на жываце і нагах.

Спосабы ўбоя труса бываюць розныя, але з іх больш за ўсё раіцца наступны. Бяруць труса за заднія ногі і, трымаючы галавой уніз, б'юць палкай па патыліцы і трус ад разрыву хрыбтовых мазгоў у выхада іх з галаўнога адразу паміраe. Калі трус забіты, а кроў з роту і носу не цячэ, трэба зараз-жа пракалоць вострай шпількай вока і кроў пацячэ. Крывяное мяса вельмі хутка псуецца.

Пры ўбоі трусоў трэба зьвяртаць увагу, каб скура не загразьнялася крывёю. Ад наяўнасьці крыві зьяўляюцца гніласныя бактэрыі як на шэрсьці, так і на мяздры. Ад гэтага скурку дрэнна сушыць і яна псуецца. Пасьля таго, як у забітага труса будзе спушчана кроў, яго бяруць за вушы і кладуць на калена. Потым моцным націскам рукі праводзяць па жывату зьверху ўніз, ад чаго мачавы пузыр аслабачаецца і мача пры разрэзе жывата не пападае на тушу. Калі мача разальлецца пры разрэзэ жывата, мяса будзе сьмярдзець і страціць свой смак.

Здымаць скурку з мяса трэба зараз-жа пасьля забою, у працiўным выпадку зьяўляецца прэласьць і валасы ў некаторых мясцох пачнуць вылазіць, што моцна зьмяншае кошт скуркі. Каб скурка была поўнацэннай, трэба захаваць усе часткі скуркі: мордачку, вушкі, лапкі і хвост.

Пасьля таго, як трус абяскроўлены і аслабанёны ад мачы, тушку падвешваюць да здыманьня скуркі. Лепш за ўсё гэта рабіць з задніх ног, паступова аслабаняючы ад скуркі заднія ногі, хвост і ўсю тушку. На задніх нагах звычайна пакідаецца мех, як довад таго, што тушка належыць трусу, а ня іншай жывёле. Скурка павінна быць чыстай, бяз усякага мяса, тлустасьці, жыл і г. д., бо ўсё гэта абясцэньвае яе.

Перад сушкай скурку трэба расправіць на драўляную ці драцяную правілку мяздрой у сярэдзіну для таго, каб яна ня мела ніякіх складак. Пры добрай распраўцы скурка лепш сохне, атрымлівае лепшы выгляд і каштуе куды даражэй. Скурка не павінна быць расьцягнутай. Сушыць яе трэба не на сонцы, не на гарачай печцы. Лепш за ўсё сушыць у цёмным памяшканьні, пры добрай вэнтыляцыі.

---

У выпадку паляваньня без дазволу ў чужой паляўнічай гаспадарцы, бяз згоды гаспадароў, павінна быць установлена суровае пакараньне, аж да выключэньня з саюзу.

Баяцца, што паляўнічы, які жадае паляўнічыць у якасьці госьця (не ў сваёй паляўнічай гаспадарцы), ня будзе мець магчымасьці зрабіць гэтага з прычыны занятасьці гэтых угодзьдзяў зараз іншымі гасьцямі, здаецца, няма чаго. Угодзьдзяў у нас шмат; паляўнічых ня так ужо многа.

Нам трэба дзейнічаць больш асьцярожна і плянамерна ня толькі ў дні адчыненьня паляваньня навакол гарадоў. І тут ня цяжка будзе праз праўленьне саюзу наладзіць парадак разьмеркаваньня гасьцей на вучастковых паляўнічых гаспадарках. Урэшце, ня так ужо шмат будзе паляўнічых, якія захочуць паляўнічаць у іншых паляўнічых гаспадарках. Большасьць будзе езьдзіць у сваю гаспадарку, дзе яны паклалі ўжо шмат працы па будаваньню гаспадаркі: ахоўвалі ўгодзьдзі на дзяжурствах; зьнішчалі драпежнікаў, учынялі падсеў расьлін для аховы і падкормкі дзічы і інш.

Вядома, знойдуцца аматары набіваць груд дзічы. Але такіх нямнога. Большасьць паляўнічых цэніць паляваньне як здаровы адпачынак, як сродак сувязі з прыродай.

Што датычыць гарадзкіх паляўнічых, то для іх прымацаваньне да вучастковых гаспадарак абазначае, з аднаго боку, адмову ад бескантрольных прыездаў і прыходаў ва ўгодзьдзі; з другога—для іх канчаецца і блуканьне па ўгодзьдзях, у якіх за цэлыя дні ня ўбачыш ні зайца, ні іншай якой-небудзь дзічыны. Ня трэба будзе баяцца, што другі паляўнічы прыдзе раней і павыб'е дзічыну раней яго. Трэба памятаць, што дзічына гіне ня столькі ад непасрэднага зьнішчэньня на паляваньні, сколькі ад таго, што ў яе няма нармальных і спакойных умоў для жыцьця. Арганізацыя вучастковых паляўнічых гаспадарак мае ў першую чаргу на мэце ўтварэньне гэтых нармальных умоў для дзічы. Клопаты па арганізацыі гаспадаркі і вывучэньню яе разам з больш дабычлівым паляваньнем ня можа не зацікавіць гарадзкога паляўнічага. Ні ў якім разе гарадзкія паляўнічыя ня будуць мець страт ад сыстэмы будаваньня паляўнічай гаспадаркі, якую я тут раю, тым больш, што ў якасьці госьця можна будзе паляўнічыць і ў іншых мясцох.

**А. Р. Штам.**

Ад сушкі таксама залежыць цана скуркі. Перасушаная скурка ломіцца, недасушаная гніе. Вымаражваньне, набіўка сенам ці саломай не павінны практыкавацца. Да продажы скурку трэба трымаць у сухім, прахладным, ізаляваным ад пылу і копаці памяшканьні. Перавозіць скуркі трэба асьцярожна, у мяшкох, павязаўшы ў пучкі.

Скуркі бываюць: буйныя, сярэднія, дробныя. Да буйных адносяцца: бэльгійскі вялікан, фляндра, белы вялікан, нямецкі баран і інш. Да сярэдніх: шыншыл, шампань, венскі блакітны, венскі белы, нямецкі срэбрысты і інш. Да дробных: чорна-вагнёвы, ангельскі срэбрысты, расійскі горнастаевы, заячы і інш. Цэны на скуркі буйныя—5 руб., сярэднія—3 руб., дробныя—1 руб.

**Галубчык.**

## Бешанковіцкі трусятнік пашыраецца

Зараз у трусятніку Віцебскага т-ва паляўнічых, што знаходзіцца ў м-ку Бешанковічы, ёсьць 85 племянных трусоў, мэтысаў 12, мясцовай пароды 34 (срэбрыстых, кенгуровых і фляндр), а спачатку арганізацыі было ўсяго 21. Да восені, бязумоўна, будзе ня менш за 300 трусоў. У гэтым месяцы зноў будуць злучаны некалькі племянных трусоў і мясцовай пароды: белы вялікан, венскі галубы, шампань, шыншыль, срэбрысты, фляндр.

Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, гадоўля трусоў у Бешанковіцкім трусятніку пашыраецца. Праўда, яшчэ шмат чаго трэба зрабіць для таго, каб яна яшчэ лепш разьвівалася. Трэба зрабіць лепшае памяшканьне, бо цяперашняе сырое і не хапае сьвету, з прычыны чаго бываюць заразныя хваробы і гінуць трусы. Трэба зрабіць яшчэ адзін навес, а то прыходзіцца трусоў трымаць пад адкрытым небам.

**Зарын.**

## Гадоўля трусоў у Віцебскай акрузе

У мінулыя гады гадоўля трусоў у Віцебскай акрузе групавалася ў вёсцы. У горадзе гэтай справай займацца не жадалі. Пародзістых трусоў ня было і ўсе існуючыя зараз трусы зьяўляюцца мэтысамі ці выродкамі парод белых вялікanaў, срэбрыстых і кенгуровых фляндр. Але і такіх трусоў зараз не хапае. Гэтым і тлумачыцца тое, што аб'яднаньне трусаводаў і контрактацыя трусоў праходзіць вельмі марудна.



Штучнае кармленьне ваўчанят у гадавальніку сабак „Белкохотсоюза“.

За апошні час праведзена растлумачальная кампанія па аб'яднаньню трусаводаў, па контрактацыі трусоў, якая карысьць атрымліваецца ад трусоў. Гэтай працай займалася пакуль што толькі таварыства паляўнічых, але ў апошні час займаюцца і іншыя ўстановы: Дзяржгандаль, Малжывёлсаюз. Яны сталі закупляць трусоў.

Адзіночкі трусаводы ўтрымліваюць трусоў вельмі прымітыўным парадкам: у загародках з кольля або дошак у хлявох. Самак злучаюць увесь год і амаль заўсёды праз 2—3 тыдні пасьля акоту, што вельмі дрэнна адбіваецца і на маладняку і на самках. У кожнай загародцы ёсьць гняздо. Гэта скрынка з круглай дзіркай з аднаго боку. Гэта гняздо закладзена сенам ці саломай і ў ім самка коціцца і трымае свой маладняк амаль што да 15—20 дзён. Трэба адзначыць, што самкі вельмі добра ахоўваюць сваё гняздо, добра затыкаюць дзірку ў гнязьдзе і ад гэтага ў ім вельмі цёпла ўзімку. Самцоў трымаюць у асобнай загародцы, але выпадкі зьнішчэньня маладняка самцамі даволі часты.

Вядома, што пры такім мэтадзе ўтрыманьня трусоў сярод іх распаўсюджаны эпідэміі розных хвароб, ад якіх часта гінуць усе трусы ў гадавальніку. Самымі распаўсюджанымі хваробамі зьяўляюцца какцыдыёз, мокрая мордачка, уздуцьце жывата, катар носа, кароста.

Кормяць трусоў галоўным чынам усякай зелянінаю бяз аніякіх прыправаў. Даюца сена, кораньплоды і рэдка авёс ці іншае зерне. Вельмі распаўсюджан мэтад утрыманьня трусоў падпечкам і пад падлогай, разам самцоў з самкамі. У больш лепшых умовах сталі трымаць трусоў толькі зараз, узяўшы прыклад з нашага трусятніка. Але справа трусаводзтва ў нашай акрузе разьвіваецца і наладжваецца.

**Б. С.**

---

**Нам неабходна, як мага хутчэй, арганізаваць паляўнічыя ячэйкі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Ячэйкі павінны будаваць паляўнічую гаспадарку.**

# А Барташ лаецца

## Ці фазаны падыхаюць, а трусы пачынаюць

(*Дабрамысьль, Культурная гаспадарка „Белкохотсоюза“*)

Стаю я і слухаю:

— Няхай асаку жруць, туды іх... Калі здохнуць, туды ім дарога.

Хто гэта так лаецца, думаю. Гляджу, аж т. **Барташ,** загадчык вопытнай гаспадаркі „Белкохотсоюза“.



Вучастак культурнай гаспадаркі „Белкохотсоюза“ з загарадкай для адзічаньня сьвіней.

— Гняздо зрабіць для самкі? Пачне парасіцца, сама зробіць!

Самка памірае. Праз 10 хвілін ад яе застанецца толькі халодны камок мяса. А т. Барташ—стук нагой самцы ў бок. Самка ад радоў абамлела Барташ капае халоднай вадой з вядра ёй на нос і кажа:

— Здыхай!.. Туды табе і дарога, на тваё месца другіх куплю.

Падыходжу да яго і іду разам. Самка есьць сваіх дзяцей. Барташ пасылае мяне:

— Ідзі, ператрусі гной і пакладзі ёй сена на гняздо.

Клеткі з трусамі стаяць пад дажджом. Па думцы Барташа, гэта трусам карысна. Корм даюць ня меркай, а жменямі—асаку, авёс і больш нічога.

— А малака не даеце трусам, т. Барташ?

— Ад малака яны дохнуць...

Нагледзеўся я ў т. Барташа шмат чаго і шмат чаму навучыўся, як ня трэба рабіць.

**Фазаны падыхаюць. Трусы дохнуць. Аптэкі няма. Ізалятара няма**. Сабакі снуюць навакол трусятніку, а ў самым трусятніку малыя дзеці лазяць у клеткі.

Калі я сказаў, што гадоўля трусоў правільна пастаўлена ў Бешанковічах т. Зарыным, дык Барташ ажна ашалёў ад злосьці.

— Пабыў-бы ты тут трохі болей, дык я-б цябе ў турму пасадзіў. У бога...

Барташ ня хоча вучыцца, ён „усёзнайка“ і ня хоча выкарыстоўваць вопыт іншых.

Такога зьдзеку над трусамі, як у Барташа я нідзе ня бачыў. Нават сяляне-адзіночкі і тыя лепш за імі даглядаюць.

**Трусавод.**



Від Сьвіслачы.

# АРУЖЭЙНАЯ ТЭХНІКА

## Вынаходка тав. Шчэрба.

На акраіне гор. Магілеву чалавек на працягу некалькіх месяцаў пасьля працы на цагельні ў якасьці мэханіка, куды ён папаў зусім не па прызначэньню, майстраваў стрэльбу. Чалавек гэты—рабочы. Раней ён працаваў на лепшых замежных аружэйных заводах, у лепшых майстраў. І зараз яго трэба было-б выкарыстаць . інакш, ня так, як зрабілі, загнаўшы яго ў цагельню. І змайстраваў чалавек стрэльбу.

Імя гэтага чалавека нікому зараз невядома, але калі-б мы былі больш прадбачнымі, магчыма гэта імя было-б вядома паляўнічым усяго СССР, а нашы грошы пашлі-б лепш на пакупку машын, вельмі патрэбных зараз нашай прамысловасьці, а не на „замежны хлам“, за які немцы выкачваюць ад нас валюту і ўзнагараджаюць нашых паляўнічых цацкамі замест стрэльбаў, купіўшы якую, паляўнічы хутка пазнае, што выкінуў якіх небудзь 150 р. на вецер.

Гэтак чалавек майстраваў стрэльбу і змайстраваў. Змайстраваў і думае, а што далей? Магчыма гэта вынаходка так і засталася-б „сакрэтам вынаходцы“,

але тут падвярнулася І-ая Ўсебеларуская выстаўка прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Скромны вынаходца Шчэрба рашыў дэманстраваць на выстаўцы і сваё вынаходзтва. Стрэльбай зацікавіліся і паставілі на выстаўцы ў якасьці экспаната. Зараз паляўнічыя могуць упэўніцца, што мы можам абыйсьціся без дапамогі аружэйных заводаў капіталістычных краін, калі прымем да вырабу мадэль стрэльбы т. Шчэрбы і будзем мець добрую стрэльбу.

Трэба вынаходзтвам тав. Шчэрба зацікавіцца нашым савецкім аружэйнікам і паставіць пытаньне, ці можна вырабляць стрэльбы мадэлі тав. Шчэрба на нашых заводах.

**М. Я. Ц.**

## Стрэльба тав. Шчэрба.

Бяскуркоўка, садачнага тыпу, 12 калібру, патроньнікі 70 м/м, рулі стальныя даўжынёю 81 сант., абодвы поўныя чокі сьвідраваны пад папяровую гільзу. Кручкі і рулі каля казённай часткі спаены медзьдзю, а апошняя частка рулі і плянка спаяны волавам. Калодка ўдоўжаная, замкі накладныя, адымаюцца, навейшай сыстэмы (Голанд-Голанд) з пераймальнікам. Прыгонка частак матэматычна дакладная. Замкі адымаюцца без інструмэнтаў, г. зн. бяз усякіх адкрутак. На левым баку замка знаходзіцца рычаг, на які трэба націснуць зьверху ўніз і адкруціць шруб, ня вымаючы яго націснуць на дошку замка, тады правы замок сам выйдзе з свайго гнязда. Гэтым-жа шрубам з правага боку можна вынуць і левы замок. Замкі трэба выймаць, калі куркі ўзьведзены. Пры ўкладаньні замкоў на месца трэба глядзець, каб пад'ёмныя рычагі былі прыціснуты да нізу калодкі, інакш замок ня ўвойдзе. Байкі ўдасканалены, спружыны байкоў знаходзяцца разам, поруч з байкамі, у



Магазын Амсьціслаўскага т-ва паляўнічых.

асобнай камэры, куды ня можа пранікнуць газ ці бруд праз байкі і байкі ня могуць іржавець ці ламацца.

Забясьпечнік на спусках аўтаматычны, апроч якога ёсьць яшчэ і сакрэтны забясьпечнік, які запірае ўвесь мэханізм стрэльбы, г. зн. ніхто ня зможа адчыніць стрэльбу, спусьціць куркі і стрэліць, калі сам гаспадар не пакажа, як гэта зрабіць. Выкідацель стрэляных патронаў асабліва моцны, масыўны, ножка яго патоўшчана, пры двух упорах—адзін упор каля падоўжанай плёнкі, другі—штыфт між руляй. Затвор трайны з квадратным скрытным шворнам Прыклад ангельскі з лепшага арэха, патыліца прыкладу зроблена з сталі, асобнай формы, рамкавападобны,



Выстаўка сабак у Віцебску.

папярэджваючы прыклад ад паломкі. У прыкладзе знаходзіцца рэмень, які выймаецца і ўкладаецца аўтаматычна. Стрэльба зроблена ў 1928 г. па тыпу дарагіх ангельскіх стрэльбаў. Работа выключна ручная, бяз усякіх машын ці станкоў. Інструмэнты зроблены тэй самай асобай, хто рабіў і стрэльбу.

**Стрэльба мае наступныя ўдасканаленьні:**

1) Байкі розьняцца тым, што спружыны байкоў знаходзяцца ў асобнай камэры з байкамі і злучаны з апошнімі асобным рычажком, дзякуючы чаму спружыны закрыты, парахавыя газы да іх не пранікнуць і яны ня могуць ламацца. Апроч таго, пры ўдары курка па байку апошні ня сьціскае спружын да адказу, як гэта бывае у звычайных байках, чым перасьцярагае яе ад паломкі.

2) У верхнім ключы знаходзіцца асобны мэханізм (забясьпечнік), які запірае стрэльбу пры спушчаных курках. Стрэльбу нельга адчыніць ня ведаючы як дзейнічае гэты мэханізм. Стрэльба ад гэтага зусім пазбаўляе ад няшчасных выпадкаў у чужых руках.

3) Каб вынуць замкі, ня трэба ніякіх адкрутак. На левым баку замочнай дошкі знаходзіцца асобны рычажок, які адкручваецца проста рукамі, пасьля чаго націскаецца на гэты рычаг і замок адымаецца. Гэтым самым рычажком выймаецца і другі замок.

**Ш.**

**Ад рэдакцыі:** Рэдакцыя „Паляўнічы Беларусі“, зьмяшчаючы артыкул па поваду стрэльбы т. Шчэрбы, настайвае перад Бюро Вынаходзтва пры ВСНГ, каб гэтым вынаходзтвам зацікавіліся належныя органы. Тав. Шчэрбе трэба дапамагчы.

# ВЫБАР СТРЭЛЬБЫ

**Тып, сыстэма, калібар.** Рознастайнасьць нашага паляваньня і багацьце СССР усякімі зьвярмі і птахамі выклікалі попыт на самыя рознастайныя тыпы, сыстэмы і калібры. Усе сыстэмы, якія зараз існуюць, можна падзяліць на дзьве асноўныя групы: стрэльбы для хадавога паляваньня, з якім паляўнічаюць аматары і паляўнічыя прамысловікі, і стрэльбы нехадовыя—для страляньня па стаях качак, гусей і іншых птах на вадзе.

Апошнія часта бываюць вельмі буйных (ад дзесятага да чацьвертага калібра і нават буйнейшых) калібраў. Даўжыня рулі ў іх даходзіць ад аднаго да паўтара мэтраў. Звычайна стрэльбы, для страляньня качак на вадзе, бываюць аднарульнымі і звыш 4-га калібру шомпальнымі. На набой для гэтых стрэльбаў ідзе вельмі шмат пораху і шроту. З іх можна біць дзіч за 200—250 крокаў.

З прычыны моцнай аддачы, ложа гэтых стрэльбаў робіцца з спружынным затыльнікам, зьмяшчаючым аддачу, а да найбольш буйнакалібарных да калодкі нават дапасоўваюць лафэт, з якога звычайна і ўчыняецца страляньне, інакш пры стрэле ў самага моцнага чалавека можа пераламіцца ключыца.

У выніку ўдалага стрэлу з буйнакалібернай стрэльбы бывае застаецца 50—60 гусей або сотня качак.

Усе апошнія стрэльбы самых рознастайных сыстэм і калібраў як шомпальныя, так і ламанкі,—аднарульныя, двухрульныя і шматрульныя, магазынныя і аўтаматычныя і зьяўляюцца стрэльбамі ўласна паляўнічымі, з якіх і павінен паляўнічы выбіраць сабе найбольш падыходзячую ў залежнасьці ад умоў паляваньня ў сваім раёне і прывычак.

Уперад, чым купіць стрэльбу, паляўнічы павінен разьвязаць пытаньне, які тып стрэльбы яму патрэбен, г. зн. вырашыць, што яму купляць—шомпалку ці ламанку, аднарульную, двухрульную, магазынку, трайнік, аўтамат і г. д.

Апроч умоў паляваньня ў сваім раёне, магчымасьці заўсёды набываюць патрэбныя прыпасы, характару страляньня і г. д., не малаважнае значэньне мае і кошт стрэльбы. Таму раіць, якую купляць стрэльбу, нельга. Сам паляўнічы павінен улічыць усе абставіны і вырашыць гэтае пытаньне. З гэтае прычыны трэба абмежавацца толькі наступнымі кароткімі паказаньнямі:

1. Шомпалка, бязумоўна, ня можа задаволіць поўнасьцю паляўнічага.

2. З стрэльбаў, якія набіваюцца гатовымі патронамі, лепшая ламанка.

3. Ламанка двухрульная, вядома, лепш за аднарульнае, але і даражэй апошняй.

4. Бяскуркоўка куды бясьпечней, чым куркоўка. Але, на жаль, звычайна баявыя спружыны ў бяскуркоўках слабейшыя чым у куркоўцы і таму патрабуюць мяккага капсуля.

5. Стрэльбы магазынныя, а тым больш аўтаматычныя розьняцца ў большасьці выпадкаў вельмі высокай якасьцю, але яшчэ ня зусім удасканалены і патрабуюць вельмі ўважлівага дагляду, дакладнага набіваньня патронаў і абавязковага ўжываньня найлепшых папяровых гільзаў.

6. Вага стрэльбы залежыць толькі ад моцнасьці стрэльбы, бо ў мацнейшых стрэльбах больш мэталю ў рулях і калодцы.

7. Аднарульныя стрэльбы звычайна мацней за двохрульныя і бой іх куды лепш.

8. Для звычайнага паляваньня і для паляўнічага сярэдняй сілы пажадана, каб вага стрэльбы не перавышала 3—3¼ кілёграм.

9. Для такіх стрэльбаў набой павінен быць у 32—34 грамы.

10. Пры такой вазе, стрэльбы 12 і 16 калібраў нельга рабіць дастаткова моцнымі і выкарыстаць у поўнай меры перавагі буйнага калібру, г. зн. ужываньне вялікіх набояў, пораху і шроту.

11. Найлепшыя вынікі боя пры ўжываньні набоя шроту вагай у 7½—8 залатнікоў, у сэнсе роўнасьці восыпі, дастатковай кучнасьці і найбольшай вострасьці, дае калібр 20. Гэты калібр параўнаўча з калібрам 16 і 12 пры аднэй і тэй-жа вазе пораху ў набоі не даюць такой аддачы.

12. Калі вага стрэльбы асаблівага значэньня ня мае, дык для дасягненьня лепшага бою карысна браць 16 і 12 калібры пры дастатковай іх вазе. Гэта дазволіць ужываць вялікія набоі пораху і шроту. (Шроту для стрэльбы 16 калібра 8—9 залатнікоў, для 12 калібру 9—10½ залатнікоў і г. д.).

**Фірмы.** Моцнасьць і доўгавечнасьць стрэльбы залежыць, з аднаго боку, ад якасьці матэрыялу, з якога зроблены часткі стрэльбы а з другога—і галоўным чынам—ад дакладнай прыгонкі частак. Бой залежыць уперад за ўсё ад якасьці работы і ад канструкцыі стрэльбы. Кошт матэрыялу, з якога выраблюцца стрэльбы, нават дарагія, адносна вельмі невялікі. Між тым былі стрэльбы, якія да вайны каштавалі 500—600, а то і больш рублёў. Галоўная каштоўнасьць стрэльбы—якасьць яе работы, якая і складае значную частку яе агульнай каштоўнасьці. Вось чаму стрэльбы, зроблены з аднаго і таго-ж куска матэрыялу і нават падобныя па сваёй сыстэме і знадворнаму выгляду расцэньваюцца—у залежнасьці ад якасьці работы—зусім па-рознаму.

Шротавыя стрэльбы выраблюцца як ручным, так і фабрычным спосабам. Стрэльба, зробленая ручным спосабам, вядома, куды лепш, чым фабрычным. Затое яна і даражэй.

Вышэйшыя якасьці стрэльбаў, зробленых ручным спосабам з найлепшага матэрыялу, вырабляліся ў розных краінах асобнымі майстрамі-мастакамі сваёй справы і расцэньваліся вельмі высака.

З ліку такіх першаклясных майстраў, стрэльбы якіх браліся ў якасьці ўзораў для фабрычнага вырабу зброі, трэба назваць наступных: Дж. Пердэ, Голянд, Чарльз Лянкастр, Ст. Грант, Дау, Вістлі-Рычардж, Дж. Ланг, Т. Бленд, Рыгбі, Грынер і некаторыя іншыя. Усе паказаныя вышэй фірмы—ангельскія. У Расіі першаклясныя стрэльбы рабілі: бр. Лежан, Ф. О. Мацка, Гонка, Бекер, Пасуп, Алёшкін і інш.

Гэтыя стрэльбы былі вельмі высокай якасьці, работы і прыгонкі, хоць і ўступалі трохі стрэльбам ангельскіх вышэйшых марак, але затое і па цане былі чуць ня ўдвая таньней першаклясных ангельскіх стрэльбаў.

Стрэльбы фабрычнай вырабкі, шмат у чым уступаюць стрэльбам першаклясных штучнікаў, тым ня менш у высокіх сваіх гатунках амаль што розьняцца выдатнымі якасьцямі.

У залежнасьці ад якасьці работы, а часткай і ад якасьці матэрыялу і канструкцыі, стрэльбы фабрычнай вырабкі аднэй і тэй-жа фірмы выпускаліся на самыя рознастайныя цэны—ад 25—30 руб. (за двухрульную стрэльбу ламанку) да 350—400 і звыш рублёў. Назавем найбольш вядомыя фірмы, якія выпускалі добрыя стрэльбы, валавога тыпу:

**Англія.** Грынер, Форд, Віблей-Скот і інш.

**Амэрыка.** Рэмінгтон, Вінчэстэр, Стывенс—галоўным чынам магазынныя і аўтаматычныя шротавікі. Рэмінгтон, апроч таго, выпускае, праўда, адносна невялікую колькасьць, двухрульных шратавікоў вельмі моцных і з добрым боем.

**Францыя.** Сэнт-Эцьенская мануфактура, Пірле, Фарэ-Лепаж, Галан, Верней, Карон. Гэтыя фірмы выпускаюць вельмі добрыя стрэльбы, вельмі прыгожыя, хоць і лёгкаватыя, на сярэднія і вышэйшыя цэны.

**Бэльгія**—мае вялікую колькасьць аружэйных фірм, добра вядомых у нас. Да ліку найлепшых фірм, выпрабляючых вышэйшыя гатункі стрэльбаў, трэба аднесьці: Аўгуст Лебо, Аўгуст Франкот, Дэфурні, Т. Тольберг і Льежская Мануфактура.

З ліку фірм, выраблюючых стрэльбы недарагія, найбольш вядомы: Нацыянальная фабрыка, Ронжэ, Лепаж, Піпер і інш. Трэба сказаць, што недарагія стрэльбы выпускаліся і Франкотам і Льежскай Мануфактурай і наадварот—стрэльбы дарагія і добрай работы выраблялі і Лепаж, Ронжэ і інш.

**Германія.** З ліку шмат фірм, выраблюючых недарагія стрэльбы, трэба адзначыць: Заўэра, Капнэра, Тэшнэр-Колата. Мэфэрта, Гяншова і інш. Нямецкія стрэльбы недарагія, з добрым боем і моцныя, параўнаўча з стрэльбамі бэльгійскімі на тую-ж цану.

Добрыя стрэльбы зараз вырабляе Тульскі дзяржаўны аружэйны завод, бязумоўна, лепш замежных дзяшовак. Да добрых якасьцяй гэтых стрэльбаў трэба аднесьці, апроч невялікай цаны, іх моцнасьць, добрую роўнавагу (у апошні час) і дастатковы запас мэталю ў рабочых частках стрэльбы.

**Выбар стрэльбы.** Пры пакупцы ўсякае паношанае стрэльбы, а таксама і новай невядомай фірмы ці хоць-бы вядомай фірмы, але з танных гатункаў, трэба ўмець выбраць стрэльбу, каб ня купіць з дэфэктамі,

Найвышэйшая якасьць стрэльбы—яе бой. Бой, як гаварылася ўжо вышэй, залежыць выключна ад сьвідроўкі рулі, яе апіloўкі і інш. З гэтае прычыны выбар стрэльбы трэба перш за ўсё рабіць з рулі. Вядома, найбольш дакладнае ўяўленьне аб правільнасьці сьвідроўкі рулі можна атрымаць толькі пасьля обмераньня рулі асобнымі дакладнымі прыладамі і інструмэнтамі, але яны па сваёй цане і па цяжкасьці вырабу даступны ўсяго толькі дзесятку—другому паляўнічых з ліку ўсёй мільённай сям'і паляўнічых СССР. З гэтае прычыны звычайна агляд рулі ўчыняецца на вока. Пры дастатковай вопытнасьці паляўнічага і такім спосабам можна выбраць без дэфэктаў стрэльбу. Лепш за ўсё настаўляць рулі стрэльбы на сьвет, між сьветлым і цёмным фонам, як, напрыклад, рама ў вакне і г. д.

Няправільнасьць сьвідроўкі рулі і адсутнасьць пагнутасьцяй у рулі будзе паказваць правільнасьць ценявых абручыкаў у рулі.

Пры аглядзе, рулі, вядома, неабходна працерці, каб зьняць змазку і пыл. У сярэдзіне рулі будзе відаць цэлы рад адбіткаў абрэзу рулі, прычым пры правільнай сьвідроўцы рулі гэтыя адбіткі будуць правільнымі абручыкамі і павінны ляжаць адзін у другім. Абручыкі даўгаватыя—паказваюць на няправільную сьвідроўку. Калі абручыкі ня роўныя, дык гэта паказвае, што рулі пагнуты.

Прагляданьне рулі, вядома, трэба з абодвух канцоў рулі. Такое прагляданьне пакажа і фірму і сілу чока, правільнасьць апілоўкі рулі, адсутнасьць раздутасьці і форму патроньніка.

Вельмі важна ўпэўніцца ў тым, што руля ня была прасьвідрована ў другі раз ці шустована. Маючы практыку, гэта можна ўстанавіць нават і бяз інструмэнтаў, але калі перасьвідрована ці шустована добрым майстрам, пазнаць цяжка.

Пасьля ўважлівага павярхоўнага прагляду рулі, неабходна прагледзіць ложу. Аб якасьці дрэва ложы мы ўжо давалі паказаньні. Адсутнасьць сучкоў, асабліва на шыйцы, простасьць пластоў дрэва і, вядома, адсутнасьць шчылін—неабходныя ўмовы для моцнасьці ложы. Апроч таго, трэба ўпэўніцца ў тым, што разьмеры ложы, пагнутасьць у шыйцы і форма абрэзу патылічнай яе часткі адпавядаюць складу цела паляўнічага. Як гэта рабіць, гаварылася раней. Неабходна таксама зьвярнуць увагу, ці шчыльна ўрэзаны ў дрэва ложы мэталічныя часткі стрэльбы, бо калі між мэталем і дрэвам будуць вялікія зазоры, дык пыл і сырасьць будзе пранікаць у затвор і ўдарны мэханізм стрэльбы і тым самым псаваць іх.

Якасьць замкоў пазнаецца іх мяккасьцю, чыстатой і звонкасьцю гука пры ўзьвядзеньні іх, і роўнасьцю спуска.

У бяскурковых стрэльбах куркі павінны ўзводзіцца раней, чым будзе адчыняцца да канца стрэльба. Таксама неабходна праверыць, ці добра і мякка працуе затвор, ці правільна кладзецца на месца ключ.

Цаўё павінна здымацца зусім вольна і лёгка і шчыльна трымацца на рулях як складзенай стрэльбы, так і на адных рулях. Трэба таксама праверыць, ці ня хістаюцца рулі ў калодцы. Для гэтага рэкамэндуецца зьняць цаўё і, узяўшы ложу ў рукі, патрасьці стрэльбу.

Калі прыгонка недакладная ці шворань падцёрся, хістаньне руляй будзе відаць на вока ў калодцы, а таксама адчувацца пальцамі. Таксама трэба перагледзіць, ці няма прасьвету паміж казённым абрэзам рулі і шчытком і між ніжняй паверхняй рулі і падушкай. Праверыць дакладнасьць прыгонкі рулёў і калодкі можна падкладваючы кавалак тонкай паперы між казённым абрэзам рулі і шчытком калодкі, а таксама падкладваньнем гэтае паперы на падушку. Пры ўкладаньні нават аднаго маленькага кавалка тонкай паперы ў стрэльбу высокай работы, затвор запірацца ня будзе.

Абмяжоўваючыся гэтымі самымі агульнымі паказаньнямі аб выбары стрэльбы, мы лічым, што толькі вопыт і веды дадуць паляўнічаму магчымасьць беспамылкова выявіць якасьць стрэльбы і пазбавіць яго ад неабходнасьці пры куплі новай стрэльбы дзейнічаць усьляпую.

Для гэтага мы раім чытачом не абмяжоўвацца гэтым артыкулам, і прачытаць наступныя кніжкі нашага расійскага паляўнічага А. П. Івашанцава „Охота и спорт" і „Бой и служба дробового ружья".

У заключэньне трэба сказаць некалькі слоў аб гравіроўцы стрэльбы. Тут усё залежыць ад жаданьня і прывычак паляўнічага. Есьць стрэльбы танныя, больш ці менш багатыя гравіроўкай і наадварот—стрэльбы вельмі дарагія—бяз усякай гравіроўкі.

Пры куплі стрэльбы таннай, вядома, трэба лепш браць стрэльбу без гравіроўкі. Трэба ведаць, што гравіроўка, у асаблівасьці добрая, вельмі дорага каштуе. Ад гэтага, вядома, будзе і матэрыял і работа горшыя, чым у стрэльбе, уся сума кошту якой зьвернута на матэрыял і работу.

**Н. М.**

# Да біолёгіі ліса і барсука

Вядома, што часта ліс ня хоча сам паклапаціцца вырыць сабе нору і займае нору барсука. Але барсук дзябёлейшы за ліса, таму ліс, каб выжыць з норы барсука, у адсутнасьці гаспадара возьме і напаскудзіць у нары.

Ахайны барсук прымушан бывае вычысьціць нору, а ліс пры першай магчымасьці зноў напаскудзіць і так працягваецца датуль, покі барсуку надакучае чысьціць сваю нору, пакідае старое памяшканьне і робіць сабе новую нору. Але, відаць, незаўсёды лісу сходзіць гэта безнаказна.

Нядаўна адзін паляўнічы Д. Валькоўскі апавядаў мне наступны выпадак, сьведкай якога давялося яму быць. Улетку мінулага году барсук задушыў у нары 2 невялікіх лісянят, вынёс іх з нары і кінуў. Выпладзіліся лісяняты ў гэтай норы, ці ліс патрывожаны перанёс іх туды з другой норы — устанавіць было цяжка. Адно было вядома т. Валькоўскаму, што нора была занята барсуком.

Цікава было-б сабраць больш фактаў, гаворачых аб узаемаалносінах барсука і ліса.

**М. Ф. Патнэр.**

# У залі суду

(Да артыкулу „Судзьдзя забясьпечаны асьветай". „Паляўнічы Беларусі" № 1—1930 г.).

— Гр-н Дзямідаў, што вы можаце паказаць па гэтай справе?

— Дык, вось, таварышы судзьдзі. Мы з жонкай сядзелі ў хаце, толькі прачнуліся. Было яшчэ цёмна. Пачуў, гэта, я стрэл і гвалт майго сабакі. Падумаўшы, што лезуць злодзеі ці бандыты, я ўзяў стрэльбу і вышаў на двор. Я сустрэў там гэтых паляўнічых—паказвае на падсудных—і спытаў, чаму яны б'юць сабак. Замест адказу, яны пачалі і мяне валтузіць. Паваліў на зямлю і білі нагамі, стрэльбамі, а потым натравілі сваіх сабак, якія пакусалі мяне. Прышла мая жонка, яны і яе пабілі.

— Хто больш за ўсіх вас біў?

— Білі ўсе. Нават і не памятаю цяпер. Здаецца, больш гэты стары паляўнічы.

— А хто жонку біў?

— Таксама ўсе. Ад гэтых пабояў мы доўга з жонкай лячыліся, аб чым сьведчыць прыкладзены да справы рацэпт.

— Рацэпты выдадзены вам у чэрвені, ліпені і жніўні, а білі вас у лістападзе, як гэта магло здарыцца?

— Мусіць лекар памыліўся.

— Хлусіце, гр. Дзямідаў. А што вы, Дзямідава, скажаце?

— Вось, муж быў у таку, сьцярог ток, я была ў хаце. Калі я пачула гвалт, я пабегла паглядзець, у чым справа. Там я сустрэла паляўнічых. Яны пабілі мяне і сабаку, а потым прыбег муж.

Так жонка выручыла мужа, а муж жонку ад злых паляўнічых. Суд апраўдаў усіх паляўнічых.

**Кошка.**

**Культурная работа ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі— залог пасьпяховага выкананьня пяцігодкі паляўнічай гаспадаркі. Арганізаваць бібліатэкі ў ячэйках! Даць добрую кніжку паляўнічаму!**

# АБМЕН ВОПЫТАМ

## Мы перабудаваліся

*(Амсьціслаў, Аршанічына)*

Яшчэ раней было відаць, што Аршанскае акруговае таварыства ня здольна кіраваць райкалектывамі, а ад гэтага ўсякая работа ў райкалектывах замірала. Нават за такой дробязьзю, як сродкі на аблаву, і то трэба было зварачацца ў акруговае таварыства і там у гэтым райкалектывам адмаўлялі, а калі ўзяць задавальненьне паляўнічых стрэльбамі і бояпрыладамі, дык іх да сэзону ніколі ня было.

Якія дасягненьні мае райбюро за 10 месяцаў, пасьля пераходу на гаспадарчы разьлік?

Павялічыўся лік пайнікаў з 120 да 350. Дабіліся 100 процантаў узысканьня паявых узносаў. Арганізавана каса ўзаемадапамогі і мае капітал у 210 руб. Пазыкі ўжо выдаваліся 15 паляўнічым-беднякам на набыцьцё стрэльбы і сабакі.

Гандаль таксама палепшыўся. Прадана стрэльбаў новых аднарульных 60, дробнакаліберных—15, двухрульных—6. Да 1929 году Амсьціслаўскім райбюро была прадана толькі адна стрэльба.

Зараз добра пастаўлена задавальненьне арганізацыі і навуковых устаноў спартыўнымі прыладамі, ад гэтага палепшылася работа спартыўных гурткоў.

Пры магазыне арганізавана бібліятэка па паляўніцкіх і рыбалоўных пытаньнях.

Гандлёвы зварот т-ва ў сярэднім у месяц зараз бывае ў 2000 руб. Прыбытак за 10 месяцаў выяўляецца да 1000 руб. (На 1-е лютага было 700 руб.). Два платныя працаўнікі—загадчык магазынам і рахункавод — спраўляюцца з работаю. Таварыства расьце і мацнее.

З скончэньнем пасеўкампаніі трэба будзе арганізаваць паляўнічыя ячэйкі на мясцох і на вытворчасьці.

Праведзена чыстка саюзу. Усяго вычышчана 25 чалавек.

Зараз Амсьціслаўскі паляўнічы ўжо не гаворыць: „нас не прызнаюць“, „як нам быць надалей“ („ПБ“ № 5)—адзіны шлях перабудаваць сыстэму паляўнічай каапэрацыі, тады толькі яна можа мацнець і будзе здаровай і тады толькі можна работу па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі праводзіць пасьпяхова.

**Барысаў.**

## Пачынаем працаваць

12 чэрвеня гэтага году адбыўся першы арганізацыйны сход сяброў саюзу паляўнічых дзяржаўнага чырвонасьцяжнага скуранога заводу „Бальшавік“. Тав. Сільнікаў інфармаваў аб неабходнасьці арганізаваць на ўсіх буйных прадпрыемствах паляўнічыя ячэйкі. Гэтыя ячэйкі будуць лепшымі дапаможнікамі ў працы „Белкохотсоюза“. Калі па ўсіх буйных прадпрыемствах будуць арганізаваны ячэйкі, лепш будзе будаваць сваю гаспадарку і весьці барацьбу з браканьерствам.

Абрана бюро ячэйкі. На сёньнешні дзень у ячэйцы 12 асоб. Па пляну працы мы павінны ў выхадныя дні арганізоўваць брыгады па барацьбе з драпежнікамі, бадзячымі сабакамі і браканьерамі.

Ячэйка арганізуе трусятнік на калектыўных пачатках. Наша ячэйка, арганізаваная, ў Менску адна з першых, а таму мы выклікаем усе буйныя прадпрыемствы Беларусі ўзяць з нас прыклад і арганізаваць ячэйкі.

**Г. Мартыненка.**

## На менскіх прадпрыемствах арганізуюцца паляўнічыя ячэйкі

„Белкохотсоюз“ прышоў да вываду, што, не арганізаваўшы паляўнічых ячэек на буйных прадпрыемствах і ўстановах, нельга праводзіць ніякай працы. Нават сабраць сход паляўнічых гарадзкога калектыву ніяк не ўдаецца ўжо на працягу некалькіх месяцаў. Два разы публікавалася ў газэтах, два разы назначаўся агульны сход, два разы плаціліся грошы за публікацыю і два разы паляўнічыя падводзяць. Нават бюро гарадзкога калектыву, на чале з старшынёю бюро т. Шмідтам, ні разу не зьявілася. Адзін раз „Белкохотсоюз“ заказаў „кіно-драму“, якая павінна была быць паказана пасьля сходу, заплачаны грошы, але на гэту прыманку паляўнічыя не пайшлі.

Адсюль адзін выхад—арганізаваць ячэйкі. Зараз арганізаваны ячэйкі на заводзе „Бальшавік“, гуце „Пралетары“, заводзе „Дрэваапрацоўшчык“, „Энэргія“, а таксама арганізоўваюцца і на іншых заводах.

**Цырульнік.**

## Легалізуюць браканьерства.

Згодна пастановы Савету Народных Камісараў БССР (Бюл. СНК 1926 г. № 9, арт. 43) гандаль паляўнічымі бояпрыладамі павінен учыняцца выключна паляўнічай каапэрацыяй, але ня гледзячы на гэта арганізацыі „Дынамо“, Асаавіяхім і нават спажывецкая каапэрацыя таксама гандлююць паляўнічымі бояпрыладамі. Пры чым магазыны гэтых арганізацый прадаюць паляўнічыя бояпрылады ўсім жадаючым.

У выніку гэтага востра-дэфіцытныя тавары: шрот, гільзы і інш., якія павінны разьмяркоўвацца паміж

паляўнічымі, пападаюць асобам, якія нічога агульнага з паляваньнем ня маюць. Апроч таго, забясьпечваюцца імі і злосныя браканьеры, з якімі паляўнічая каапэрацыя змагаецца.

Для правільнага скарыстаньня паляўнічых бояпрыладаў і больш пасьпяховай барацьбы з браканьерствам, трэба забараніць гандаль гэтымі рэчамі ўсім арганізацыям, апроч паляўнічай каапэрацыі.

**Р. С.**

## Ахоўваем паляўнічую гаспадарку

(*Дамінкоўская ячэйка, Полацкага раёну*)

11-га мая бюро ячэйкі сабрала паляўнічых для ўтварэньня аблавы на драпежнікаў паляўнічае гаспадаркі. Зьявілася 7 таварышоў, з якіх арганізаваны былі 2 брыгады. Брыгады абыйшлі шмат паляўнічых угодзьдзяў. За дзень зьнішчана 6 сабак, 1 кот, 1 варона.

На насельніцтва гэта аблава зрабіла ўплыў. Ужо назаўтра сабакі шмат якімі гаспадарамі былі прывязаны. Бюро ячэйкі парашыла рабіць такія аблавы часьцей. Калі за гэту справу, як сьлед, возьмуцца і іншыя паляўнічыя ячэйкі, гэтым самым будзе прынесена шмат карысьці паляўнічай гаспадарцы.

**Ясьвен.**

## Чума ў сабачым гадавальніку

(*Бешанковічы, Віцебскае акругі*).

Ад лёгачнай чумы ў гадавальніку сабак загінула дзьве аўчаркі—„Гена“ і „Фея“, а „Граміла“—ганчак, здох яшчэ ў Віцебску на выстаўцы.

Тут бязумоўна было нейкае ўпушчэньне, бо ня трэба было весьці на выстаўку сабак, не зрабіўшы ім супроцьчумнай прывіўкі.

Апошнія сабакі ў гадавальніку выратаваны, дзякуючы т. Сушкевічу, які выслаў сродкі для прышчэпкі, пасьля чаго становішча ў гадавальніку зараз-жа палепшылася.

Цікава, тое, што сабакі, трусы і фазаны не страхуюцца акруговым таварыствам і такім чынам саюз паляўнічых нясе страты ад пагібелі гэтых жывёл.

**Зарын А. К.**

## Трэба наладзіць

У нас яшчэ кепска задавальняюцца баявымі прыпасамі паляўнічыя. Шмат часу і сродкаў вясковыя паляўнічыя трацяць на хадзьбу ў раённае бюро паляўнічых за прыпасамі. А бывае так, што прыедзеш, а там няма таго чалавека, які адпускае прыпасы. А лыжка дарага да абеду,—кажа прыказка. Бывалі выпадкі, калі з-за адсутнасьці патрэбных бояпрыпасаў зрывалася самае дарагое паляваньне, самы падыходзячы момант.

Трэба там, дзе гэта магчыма, адпускаць боепрыпасы паляўнічым ячэйкам. Гэтую думку выказваюць шмат якія паляўнічыя і яна жыцьцёвая.

Паляўнічаму ня прыдзецца за паўкілё шроту гнаць каня за 20—30 вёрст кожнаму асобна. Кепска толькі, што некаторыя акругі, асабліва Бабруйская, бюракратычна адносяцца да гэтага пытаньня.

**Бочак.**

## Недахоп рыбалоўных прылад

У Барысаве адчуваецца недахоп рыбалоўных прылад. Няма шнуроў для дарожак, мала кручкоў малых разьмераў, дасланыя вудзільны вельмі затонкія, нейкія дубчыкі. Трэба задаволіць аматараў і арцелі рыбаловаў поўнасьцю таварамі.

**Рыбак.**

## Аб задавальненьні паляўнічых стрэльбамі

Зараз прыбывае партыя паляўнічых стрэльбаў нашага савецкага вырабу. Будуць стрэльбы Іжэўскага заводу—аднарульныя ламанкі сыстэмы Іжэўск-Джонсон, Тульскага дзяржаўнага аружэйнага заводу—бярданкі сыстэмы Мосіна-Фралова і двохрульныя ламанкі. Кошт стрэльбаў ад 16 да 135 руб.

Апрача таго, з-за мяжы выпісаны больш дарагія стрэльбы—двохрульныя ламанкі бяскуркоўкі аружэйных заводаў у Зуле (Нямеччына). У гэтай партыі будуць стрэльбы маркі Гэншоў (Геко)—менш дарагія і Заўэра—больш дарагія. Так што да сэзону паляўнічыя як гарадзкія, так і вясковыя стрэльбамі будуць задаволены.

**Свой.**

## Некалькі слоў аб фазанах

У Бешанковічах пад курыцай выседжваліся фазаны. Было падкладзена 15 яек. Курыца сядзела добра, але нічога ня вышла. Адно фазанё з яйца вылупілася, але загінула. Пры праверцы выявілася, што яйкі фазана былі ня сьвежыя. Было 12 баўтуноў, а ў двох зародкі былі ўжо загніўшыя. Відаць, Віцебскаму акруговаму т-ву нехта ўсучыў дрэнныя яйкі і мы засталіся без фазанаў.

**Зарын.**

# ПАД АГОНЬ КРЫТЫКІ МАС

## Загінуўшая рэўкамісія

Рэўкамісія Віцебскага таварыства паляўнічых была абрана яшчэ ў 1927 годзе на апошнім сходзе ўпаўнаважаных. Два сябры рэўкамісіі выбылі ў сакавіку 1928 г. з прычыны адхіленьня праўленьнем акруговага т-ва мерапрыемстваў па рацыяналізацыі працы т-ва, унесеных рэўкамісіяй і накіраваных на палепшаньне гаспадарчага стану акртаварыства. Пры выбыцьці гэтыя два таварышы перадалі свае прапановы па рацыяналізацыі ў РСІ, каб апошняя дала сваё заключэньне, наколькі яны мэтазгодны. РСІ цалкам ухваліла іх і абавязала праўленьне таварыства ўвесьці ў жыцьцё.

З таго часу склад рэўкамісіі (за выключэньнем старшыні) абіраўся ўжо два разы пленумам праўленьня, а працы гэтай рэўкамісіі і дагэтуль ня відаць. Гэта відаць з наступнага.

У канцы мінулага году праўленьне т-ва рыхтавалася да чарговага сходу ўпаўнаважаных. Для гэтага трэба было абрэвізаваць дзейнасьць праўленьня і выявіць, у якім стане знаходзіцца грашовая частка акртаварыства. Некалькі разоў склікалася рэўкамісія, некалькі раз некаторыя члены яе прыступалі да рэвізіі і ўсе разы на гэтым іх працаканчалася. Урэшце, сход упаўнаважаных быў адменен, а замест яго павінен быў адбыцца пленум. Тут зноў рэўкамісія паўтарыла ўсе тыя „трукі“, што і пры падрыхтоўцы да сходу і рэвізіі не зрабіла. У выніку нельга склікаць і пленуму.

Зьвярнуліся за дапамогай прымусіць працаваць рэўкамісію ў партыйныя органы, але і адтуль ніякай дапамогі не атрымалі. Час праходзіць сваім парадкам, праўленьне працуе сваім парадкам, а рэўкамісія загінула сваім парадкам.

Трэба спадзявацца, што праз часопіс „Паляўнічы Беларусі“ паляўнічая маса Віцебскай акругі зьвярне на нашу рэўкамісію ўвагу РСІ і прымусіць яе працаваць.

**М. Кошка.**

## Сіроцінцы асірацелі

Наш **Сіроцінскі раён**, Віцебскай акругі, зусім асірацеў. Няма старшыні райбюро колектыву. Каго толькі не выбіралі, усім па шапцы надавалі. Цяжкая доля ў нашых паляўнічых... За бояпрыладамі ехаць трэба ў Віцебск ці Бешанковічы. У Віцебск далёка, а вось у Бешанковічах—там усё для вас. Тав. Зарын трусоў пакажа, як весьці організацыйную работу раскажа. Там насьценгазэту пачытаеш, ды і з тав. Зарыным пагутарыш. Там жыцьцё кіпіць. Арганізаваны гурток паляўнічага пры сямігодцы. Літаратуры шмат, ёсьць радыё, электрычнасьць, зьбіраюцца сродкі на пабудову танка. Словам—жыцьцё б'е ключом.

А мы, сіроцінцы, асірацелі. З нас сьмяюцца. Нас лаюць, б'юць і плакаць не даюць—сіроты! нічога не папішаш.

У Бешанковічах працуюць два паляўнічыя—Міронава Афрасіньня і Зарын. Яны застрэльшчыкі ў рабоце. Яны стараюцца адзін перад адным.

Мы, сіроцінцы, хацелі-б працаваць, будаваць паляўнічую гаспадарку, займацца гадоўляй трусоў і птах, але ў нас няма кіраўніка. Мы зьвяртаемся да акруговага т-ва аб пераводзе на працу ў наш раён т. Зарына. Мы запрашаем да гэтага т. Зарына і спадзяемся, што ён не пакіне нашай просьбы без адказу.

**Самарын В.**

## Грошы на вецер

У Асіпавіцкім раёне, Менскай акругі, ёсьць крама паляўнічых. Крама павінна задавальняць паляўнічых і рыбаловаў прыладамі паляваньня і рыбнай лоўлі. Але старшыня Асіпавіцкага райбюро т. Жаўрыд лічыць, што гандаль кручкамі і іншымі рыбалоўнымі прыладамі не прыбытковы і не паклапаціўся, каб задаволіць таварамі рыбаловаў. Крама пустая, а 15 р. на яе памяшканьне райбюро выкідае на вецер.

Трэба, каб у будучым годзе гэтага ня было. Трэба сваячасова рабіць загатоўку тавараў як для паляўнічых, так і для рыбаловаў.

**С-ка.**

## Узрадаваўся і засмуціўся

*(Смалявічы, Менскай акругі)*

Вельмі ўзрадаваўся паляўнічы Савіцкі, калі прынёс дахаты паўжывую старую лісіцу і ўжо пачаў шукаць пакупцоў на яе. Але радавацца Савіцкаму суджана было нядоўга. Хутка аб гэтым браканьерскім учынку даведаліся паляўнічыя і адабралі лісіцу. Лісіца настолькі была замучана Савіцкім, што хутка здохла. Зараз справа аб гэтым вядзецца міліцыяй і трэба спадзявацца, што будзе даведзена да канца. У забітай лісіцы засталося чацьвёра дзяцей. Малым дапамагаюць паляўнічыя: Грак, Пімога, Мурашка і Хмяльніцкі, штодзень да іх нораў носяць бітых варон. Сіроты адчуваюць сябе добра. Стары паляўнічы Хмяльніцкі Адам часта сядзіць на купіне і радуецца, як гуляюць яго „выхаванцы“.

**Г. Б.**

## А дзе-ж Райбюро?

У нашым Чэрвенскім раёне, Менскай акругі асабліва ў в. Слабодка, Калодзецкага сельсавету з паляўнічай гаспадаркай творыцца чорт ведае што. Ніхто ня цікавіцца паляўнічай гаспадаркай. Аб савецкіх законах па ахове дзічы насельніцтва нічога ня ведае. Правілы паляваньня не папулярны.

Сяляне водзяць у лес сабак, якія разбураюць гнёзды і зьнішчаюць дзіч. Пастухі ня толькі ня трымаюць сабак на прывязі, але бяруць з сабой стрэльбы і палююць. У калгасах—там яшчэ горш. Там не вядзецца аніякай работы па папулярызацыі правілаў паляваньня і па ахове прыроды. Пастухоў сваіх калгасы задавальняюць стрэльбамі і бояпрыладамі. Б'юць усіх адзінакава—і ваўка, які кідаецца на карову, і птушку, якая сядзіць у гнязьдзе на яйках. У лесе ўсюды чутны стрэлы. **Міралевіч.**

**Ад рэдакцыі:** Чэрвенскае райбюро паляўнічых павінна тэрмінова арганізаваць паляўнічыя ячэйкі ў калгасах і вёсках і пачаць працаваць. Ячэйкам трэба арганізоўваць брыгады па барацьбе з бадзячымі сабакамі, кошкамі, а таксама драпежнікамі і браканьерамі. Апошніх прыцягваць да судовай адказнасьці.

## Браканьеры яшчэ ёсьць

Паляўнічы Каляда Пятрок Сяргееў, Грэскага калектыву, Менскай акругі—і стары паляўнічы—займаецца браканьерствам. Колькі ён прынёс шкоды паляўнічай гаспадарцы ўлічыць цяжка. З 1927 году ім забіта некалькі зайцаў, качак, цецярукоў ня ў тэрмін паляваньня. Козы дзікія зусім забаронены да адстрэлу, а якая справа да гэтага Калядзе—ён сабе страляе. Ганчакі Каляды вольна бегаюць па ўгодзьдзях, зьнішчаюць дзіч. Наогул гэта не паляўнічы, а самы страшэнны драпежнік.

Цікава тое, што аб гэтым ведае Грэскае райбюро, а мер ніякіх ня прымае. Ці не таму, што члены бюро бываюць у гасьцях у Каляды і часта выпіваюць. **Ні-ч Е.**

## Дабілі да ручак

Старобінскі райкалектыў Бабруйскае акругі яднае 296 асоб. Дзічы ў раёне шмат. Праца кульгае на ўсе тры нагі. Яшчэ ня было чысткі саюзу. Фонд каапэраваньня беднаты ня выкарыстаны поўнасьцю. (З 18 руб. 12 выдаткавана). Стралковая справа не наладжана.

У падрыхтоўцы да Ўсебеларускай выстаўкі ня ўдзельнічалі; паляўнічыя і ня чулі аб выстаўцы. Яшчэ і дагэтуль між паляўнічымі пануе думка, што паляваньне—гэта пустая справа, а райбюро пачывае на лаўрах, пакуль дзіч ёсьць, і нічога ня робіць па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі.

Ячэйкі, якія былі, усе распаліся. Да арганізацыі новых райбюро яшчэ не прыступілі. Часопісь „Паляўнічы Беларусі“ даходзіць кепска.

Барацьба з ваўкамі і іншымі драпежнікамі праводзіцца слаба. За чатыры аблавы забіта ўсяго 3 ваўкі. Ня ўсе паляўнічыя ў зьнішчэньні ваўкоў прымаюць удзел.

**К. Ц.**

## Абураючы факт

У першых чыслах ліпеня рабочыя злавілі каля м. Бешанковіч жывую котную выдру. Рабочыя ведалі, што выдра ахоўваецца законам, як рэдкі зьвер і забіваць яе нельга. Рабочыя перадалі выдру Бешанковіцкаму спажывецкаму таварыству.

Але працаўнікі Бешанковіцкага спажывецкага т-ва ведаюць толькі адно, што ім трэба нарыхтоўваць пушніну, а калі і якіх зьвяроў можна забіваць для гэтай мэты—ведаць аб гэтым, па іх думцы, ім ня трэба. Яны таксама ня цікавяцца і тым, што калі будуць зьнішчаны зьверы, дык ня будзе і пушніны. Мусіць думаюць, што пушніна расьце на вярбе.

І спажывецкае таварыства купіла выдру. Вядома, раз купіла, дык ня выпусьціць-жа яе на волю і трэба нешта зрабіць, каб пакрыць выдаткі. Вядома, выдру забіць нядоўга. Вышаў за хату, стукнуў аб рог і гатова. Так працаўнікі спажывецкага таварыства, а па нашаму ворагі народнае гаспадаркі, браканьеры, якія караюцца арт. арт. 125 і 126 Крым. Кодэксу, і зрабілі.

Яны думалі, што будзе ўсё шыта-крыта. Але ад гэтага забойства загінула не адна выдра. Што адна? Ніколі. Выдра была котнай і пры ўскрыцьці ў яе знайшлі чатырох малых выдронкаў, якія праз год сталі-б такімі самымі доўгахвостымі выдрамі, як і сама матка.

Паляўнічая грамадзкасьць абурана гэтым фактам і патрабуе ад пракуратуры ўмяшацца ў гэту справу. Мы таксама далучаемся да голасу паляўнічай грамадзкасьці. С.

## Бывае на замку

*(Быхаў, Магілеўскай акругі).*

Наша райбюро трэба падагнаць, каб яно не працавала як летась. Бывала прынясеш за некалькі кілёмэтраў скуркі, а райбюро на замку. Ну, вядома, што больш ня пойдзеш і скуркі здаваліся паляўнічымі другім установам, а некаторымі і прыватнікам. Добра, што ў мінулым годзе было пяць нарыхтавальнікаў пушніны, быў выбар, а калі і сёлета так будзе працаваць райбюро, як летась, дык невядома, што будзе.

**М. Кіяшкоў.**

## А аб нас забыліся

У першых лічбах мая адбылася ў г. Бабруйску акруговая выстаўка сабак усіх парод. Бабруйскае акруговае т-ва паляўнічых паведамляла аб выстаўцы, а аб нас забылася. У Асіпавіцкім раёне толькі цяпер даведаліся аб выстаўцы і рот раскрылі: „як так, у нас-жа шмат добрых ганчакоў!“

Што да гэтага акруговаму т-ву.—„Нейкае там яшчэ Асіпавіцкае бюро. Хто там ёсьць жывы?“

Хоць-бы ў газэце аб выстаўцы абвясьцілі. От галавацяпы, дык галавацяпы...

**Буравесьнік.**

## Вучоны бусластрэл

Да нас у в. Вузнож, Рэчыцкага раёну, Гомельскай акругі прыехалі таксатары. Адзін з іх, Іваноў, паляўнічы. Прыехаўшы, ён падумаў: „вось, дзе пастраляю! Што мне начальства, я сам не малое начальства“.

На вясковых могілках дзядзькі секлі верхавіну хвоі і ўсьцягнулі барану для буслаў, бо народ любіць гэту птаху за тое, што яна шмат зьнішчае гадзюк і лягушак і зьяўляецца карыснай *). Пасялілася пара буслаў. Самка сядзела на яйках, а самец клапаціўся па „хатняй гаспадарцы“. Вось на іх і зьвярнуў увагу „начальнік“ Іваноў. Аднаго разу ён застрэліў самца з свайго вінчэстэра і кінуў яго каля каапэрацыі. Хто толькі ня ішоў, лаяў Іванова за забойства бусла. Я і член сельсавету хацелі адабраць стрэльбу. Склалі пратакол і аддалі настаўніку, які ехаў у Рэчыцу, перадаць у саюз паляўнічых. Але, як гэта кажуць: „рыбак рыбака бачыць здалека“—і пратакол не папаў па прызначэньню.

*) Бусел—ня зусім карысная птаха. Яна зьнішчае менш гадзюк, чым іншых, пад час карысных стварэньняў. Лягушка прыносіць карысьць тым, што паядае казявак.

**Гажко Рыгор.**

## Няма гаспадарчага вока

Рыбны промысел у нас, у Беларусі, мае вялікае значэньне. Але кепска тое, што рыбнай гаспадаркай яшчэ ня ўсюды зацікавіліся належныя органы і рыбная гаспадарка не наладжана.

От, возьмем хоць у нашым Слуцкім раёне. На Рацэ Случы ў гэтым годзе лавілі рыбу ўсякімі спосабамі, не захоўваючы законныя тэрміны. Яшчэ задоўга да 10 чэрвеня лавілі невадам.

У в. Кленчанах, кажуць, наогул ня ведаюць аніякіх тэрмінаў і ловяць, калі хто хоча і чым хоча.

Тут, відаць, няма гаспадарчага вока, бо рыбу вельмі хутка, за якіх-небудзь два гады, можна зьнішчыць, калі яе лавіць у часы нерасту. Будзе вылаўлена каштоўная рыба, а дробязь застанецца.

**Цімка.**

## Зьнішчаюць птушак

Шмат птах гіне ад лясных пажараў. Мне самому даводзілася бачыць, як лясная варта пускае „палы“, у якіх згаралі птахі. 23 чэрвеня каля в. Азяршчына Гом. акр. я назіраў такі выпадак: запалілі дзялянку з гальлём. Агонь стаў пашырацца, у якім згарэлі 3 вывадкі цецярукоў. А колькі гіне дробных птах? У пасёлку Пагарэлец запалілі лоўж і таксама загінула шмат зайцоў.

**Знаючы.**

**Ад рэдакцыі:** Наркамзем павінен зьвярнуць увагу на такія адносіны да лесу і прыняць прапанову Знаючага, каб гальлё ў дзялянках палілася выключна ўвосень. З пажарамі лесу трэба весьці суровую барацьбу.

**Рэдакцыя.**

## Ці падобна гэта на бюрократызм

Тэрмін паляваньня па пяру да гэтага часу быў вызначаны з 1 жніўня. З прычыны раньняе вясны ў гэтым годзе паляўнічыя масы паднялі пытаньне аб дазволе паляваньня ў гэтым годзе на качак з 20 ліпеня. ЦП „Белкохотсоюза“ гэта пытаньне паставіла на пасяджэньне, але там да згоды ня прышлі, бо галасы падзяліліся. З гэтае прычыны пытаньне аб паляваньні на качак было перанесена для вырашэньня на пленуме праўленьня „Белкохотсоюза“, які адбыўся 20-21/VI. Там галасы таксама падзяліліся, але большасьць выказалася ўсё-ж такі за адчыненьне паляваньня на качак з 20 ліпеня. Пастанову пленуму трэба было ўзгодніць з Наркамземам.

Калі „Белкохотсоюз“ зьвярнуўся ў Наркамзем, то выявілася, што Наркамзем яшчэ 9 чэрвеня дазволіў паляваньне з 20 ліпеня і ня толькі на качак, а і на дупялёў і бэкасаў. Па вымаганьню кіраўнікоў „Белкохотсоюза“ Наркамзем адмяніў сваю пастанову і згадзіўся з пастановай „Болкохотсоюза“ аб паляваньні з 20 ліпеня толькі на качак. Але зьявіўся „вялікі майстра“ загадчык сэктару паляваньня НКЗ т. Дзярыба і справа зацягнулася на некалькі дзён. Толькі пасьля таго, калі справу кіраўнікі „Белкохотсоюза“ перадалі намесьніку наркома, яна была канчаткова вырашана і НКЗ канчаткова адмяніў пастанову.

Такія адносіны наркамземаўцаў да грамадзкай арганізацыі, якая больш за ўсё зацікаўлена паляўнічай гаспадаркай, зьяўляюцца бязумоўна бюрократычнымі, а габінэтнае вырашэньне пытаньня аб паляваньні, бяз удзелу грамадзкасьці, бяз улічэньня прапаноў гэтае грамадзкасьці—зьяўляецца бяздушна-бюракратычным фактам.

**Сільнікаў.**

## Шальмуюць ідэю сацспаборніцтва

*(Сьмілавічы, Менскай акругі).*

Паляўнічыя Смалявіцкага райкалектыву ў мінулым годзе выклікалі на сацспаборніцтва паляўнічых Сьмілавіцкага раёну Дагавор між райбюро быў падпісан. І вось прайшоў ужо год, а ад Сьмілавіцкага райбюро ніякіх вестак. Паляўнічыя Смалявіч выклікалі Сьмілавіцкае райбюро на свае сходы, прасілі прыслаць хоць-бы весткі, думалі сустрэцца на акруговай нарадзе райбюро ў Менску і ўсё гэта дарэмна—Сьмілавіцкае райбюро загінула, нібы яго языком зьлізала. Што зроблена імі па сацспаборніцтву, што трэба зрабіць аб гэтым нічога нідзе не пазнаеш. Такія адносіны Сьмілавіцкага райбюро шальмуюць ідэю сацспаборніцтва.

Смалавіцкія паляўнічыя пабудавалі сваю працу на падставе дагавору. Смалявіцкія паляўнічыя маюць значныя дасягненьні. Смалявіцкія паляўнічыя выканалі дагавор на 100 проц. па ўсіх пунктах.

А што-ж робіцца ў вас, таварышы з Сьмілавіч? Ці чуеце вы, што ў вас пытаецца аб гэтым паляўнічая грамадзкасьць?

Зараз паляўнічыя Смалявіцкага раёну рыхтуюцца да пераходу на новы статут. На ўсіх сходах абгаварваюць рэарганізацыю ў паляўнічай каапэрацыі. Паляўнічыя ячэйкі і раённыя бюро заключаюць дагаворы на сацспаборніцтва па правядзеньні гэтай работы. Зварочваецца максымальная ўвага ў рабоце на паляўнічую гаспадарку. Праводзіцца абсьледваньне заказьнікаў і ўсё гэта робіцца ў парадку сацспаборніцтва.

А што думаеце рабіць вы, таварышы з Смалявіч? Хоць адгукнецеся!

**Бруякін.**

## Зьнішчаюць малады лес

У Бабруйскім раёне, Хешчанскім сельсавеце ёсьць невялікі лес пад назвай Дуброўна. Лес займае плошчу каля 300 гэктараў. Раней у гэтым лесе пладзілася шмат дзічы і зьвера. Лес малады, кустарнік. Зараз ён чамусьці вырубаецца. Лесарубы пры гэтым знаходзілі шмат маладых птушак, гнёздаў, зайцоў, лісянят і ўсё гэта зьнішчалі.

Мне здаецца, што тут ёсьць галавацяпства, бо лес вырубаецца на распашку. Апроч таго, у сучасны момант, калі плошча паляўнічых угодзьдзяў скарачаецца, союз паляўнічых мог-бы дабіцца ад Акрза таго, каб гэты лес пакінулі пад заказьнік.

**Шмялоў.**

## Рэчыцкі суд ня лічыцца з інтарэсамі паляўнічай гаспадаркі

Паляўнічыя Рэчыцкага раёну Радчук Адам і Аўрам пашлі на паляваньне. Каля хутара Хатані, Залатускага сельсавету, Рэчыцкага раёну ганчак Радчука Адама быў забіты браканьерам Сыраежка Сямёнам. Сыраежка Сямён паляваў з стрэльбай брата, Сыраежка Масея. Ёсьць закон, што ніводзін пяляўнічы ня мае права аддаваць свайго білета і стрэльбы каму-б там ня было.

Паляўнічыя Радчук Адам і Аўрам, кіруючыся гэтым законам, адабралі там-жа, на паляваньні стрэльбу ад Сыраежкі Сямёна і накіравалі з пратаколам у райміліцыю за браканьерства. Апроч таго, Радчук Адам прад'явіў іск да Сыраежкі Масея за сабаку ў разьмеры 50 руб.

Рэчыцкі суд замест таго, каб разгледзець гэту справу ў паасобку—грамадзянскую і крымінальную—зьвёў яе да нуля. З браканьерствам суд лічыцца ня стаў, а наадварот паверыў радні Сыраежкі і прысудзіў Радчукоў да штрафу. Суд ня хоча лічыцца з інтарэсамі паляўнічай гаспадаркі. У другой частцы прыгавору, па забойству сабакі, суд таксама парушыў інтарэсы паляўнічай гаспадаркі. Хай будзе з гэтага часу вядома судзьдзі, што ня будзе ў паляўнічых ганчака і будуць браканьеры, ня будзе і пушніны, якая нам так неабходна ў сучасны момант.

Трэба суду перагледзець гэтыя справы і наогул зьмяніць адносіны да паляўнічай гаспадаркі.

**Р. А.**

**Ад рэдакцыі.** Думка, выказаная аўтарам гэтае заметкі, бязумоўна, верна. Суду трэба гэта прыняць пад увагу і перагледзець справу Радчука А.

## Браканьер з білетам

*(Чэрвенскі раён, Менскай акругі)*

Паляўнічы Грыбко Мікола з в. Любішына зусім ня лічыцца з паляўнічымі правіламі. У мінулым годзе ён ставіў пасткі і сілкі на ўсякую дзіч і раскідаў атруту. Было атручана шмат паляўнічых сабак. Грыбко выкрылі паляўнічыя і аддалі пад суд. Прыгавор быў вынесен для гэтага браканьера вельмі мяккі і Грыбко арудуе па сёнешні дзень. Ставіць сілкі, раскідае атруту, паляўнічае ня ў час.

Хіба на гэтых хуліганаў і браканьераў няма ніякай улады.

**Н.**

## Спакойнай ночы

За апошнія часы **Увараві́цкае** райбюро, Гомельскае акругі можна сказаць, зусім не працуе. Каапэраваньне беднаты праходзіць слаба. Бедната і батрацтва ў саюз не ўцягваюцца. Ніякай працы сярод паляўнічых не праводзіцца. Паляўнічыя ня ведаюць ці ёсьць у іх ячэйкі, ці няма, а ячэйкі ў сваю чаргу маўчаць. А браканьеры арудуюць.

Трэба ўзяцца за будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі. Трэба арганізаваць і аздаравіць ячэйкі.

**Карлоўскі С.**

# РЫБНАЯ ГАСПАДАРКА

## Лоўля галаўнёў улетку

Вудзіць галаўнёў вельмі цікава і, пры некаторай прывычцы і ўменьні, дабычліва. У Беларусі некаторыя рыбаловы толькі і ловяць галаўнёў.

Спачатку мая, калі рэкі пачынаюць мялець, галавень пачынае брацца на хрушча (майскага жука), чорны хлеб (добра з ільняным маслам), шыйку рака, сыр, лягушак (дробных), жыўцоў, уюна, і г. д. На майскага жука ловяцца на камяністых атмелях і асабліва пад веткамі вялікіх дрэў, у карнях, дзе галаўні ходзяць стайкамі, ловячы жукоў, падаючых з ветак.

Вудзяльна трэба даўжынёй ня менш 4 мэтраў, леса 15—20 мэтраў, кручок № 12—15. Пры лоўлі з берагу, на атмелі, жука трэба закідваць як мага далей і самому ісьці за ім па цячэньню ўніз па берагу, прыглядаючыся, каб яго не схапіў галавень. Пры лоўлі з лодкі некаторыя рыбаловы кідаюць вудзяльна зусім у ваду, а самі з лодкі назіраюць за ім, едучы ззаду.

Пад веткамі дрэў жука трэба падкінуць уверх для таго, каб ён пасьпеў апраўіцца і плаўна зьляцеў у ваду, дзе яго галавень і ловіць ў гэты момант. Таксама добра, калі жук павольна апускаецца на дно. Наогул усім дзеяньням жука трэба прыдаваць натуральную форму.

На чорны хлеб, шыйку рака, сыр, лягушку, уюноў і інш насадку галаўні ловяцца толькі подпускамі, пры гэтым леска і павадкі павінны быць тонкімі, бо ў галаўня, ня ў прыклад іншым рыбам, добра разьвіты зрок, і на тоўстую, хаця-бы і чуць відную снасьць, ён ня клюе.

Калі атмель роўная дык 3—4 водпускі трэба раскласьці па берагу і, нажывіўшы іх, прывязаць на канцох па цяжкаму камню і апусьціць у ваду поперак ракі. Калі на атмелі ёсьць буйныя камні, дык падпускамі іх абкручваюць як павуціньнем. Афарбоўка павадкоў у камяністых мясцох лепш шэрая.

Пад плацінамі працуючых млыноў ловіцца такім-жа спосабам— нажыўка чорны хлеб. На жыўца —плотку, ловіцца на жэрліцу: трэба зрэзаць палку даўжынёй 3—4 мэтра, з вілачкамі на канцы, уткнуць яе каля самай вады ў бераг, і, расклаўшы леску па беразе кругамі, канец апошняй перакінуць праз вілачкі і прывязаць жыўца. Калі галавень возьме нажыўку, леска будзе разматвацца. Буйны галавень ніколі ня ловіцца добра ў мясцох занятых плытамі і нават баіцца лодкі. З гэтае прычыны галаўня трэба лавіць толькі на чыстай вадзе

**Н. Крас.**

## Органы адчуваньняў у рыб

Ці чуе рыба? Ці разьвіты ў яе нюх? Ці добра яна бачыць? Усе гэтыя пытаньні, бязумоўна, павінны зацікавіць рыбалова, аматара-вудзільшчыка і проста таго, хто цікавіцца жыцьцём прыроды. Трэба сказаць, што сярод рыбакоў аб адчуваньнях рыбы, як слыху, зроку, нюху распаўсюджана шмат зусім няверных зьвестак. У гэтым кароткім нарысе мы будзем старацца асьвятліць пастаўленыя вышэй пытаньні, наколькі гэта магчыма, пры сучасных нашых ведах.

Аб вышэйшай нэрвовай дзейнасьці арганізма можна судзіць па таму, як разьвіта ў яго гэта цэнтральная нэрвовая сыстэма, г. зн. мазгі галавы і хрыбта. У рыб мазгі галавы вельмі маленькія і не запаўняюць цалкам поласьць галаўнога чэрапа. Па адноснай велічыні мазгоў галавы судзяць аб разьвіцьці нэрвовай дзейнасьці арганізму. Вага мазгоў мянтуза, напрыклад, роўна 1/700 вагі ўсяго цела, у шчупака 1-300.

Найбольш вывучаны зараз нюх рыбы. Нюх вядомы ва ўсіх рыб, нават у найбольш нізка стаячых, як кругларотыя (міногі і міксіны). У большасьці рыб органы нюху ўяўляюць сабой парны орган у выглядзе ямак, злучаных нэрвам ад галоўных мазгоў.



Пра шмат якіх рыб можна сказаць, што яны маюць добра разьвіты нюх. Вядома, напрыклад, што пах сьвежай крыві здалёку прыцягвае акул. У Фінляндыі нядаўна былі пастаўлены вопыты для дасьледу гэтага пытаньня з шмат якімі морскімі і прэснаводнымі рыбамі ў акварыумах. У выніку гэтага выяўлена, што вельмі слаба разьвіты нюх у шчупака і морскага сіга. Найбольшага разьвіцьця ён дасягае ў чырвонапёркі, акуня, ярша, галыяна, трэскі, вугра, акулы.

Асаблівасьцю пабудовы вачэй у рыбы зьяўляецца іх прыстасаванасьць у спакойным стане бачыць на блізкай адлегласьці ў той час, калі ў наземнай жывёлы вочы прыстасаваны бачыць далёка. Такім чынам, з нашага пункту погляду рыбы зьяўляюцца „блізарукімі“. Аднак, шляхам перасоўваньня крышталіка вока, рыбы могуць бачыць і далёка, але не далей як на 10—12 мэтраў. Што датычыць здольнасьці рыб разьлічаць усялякія колеры, дык тут пытаньне нельга лічыць канчаткова дасьледваным. Можна толькі дагадвацца, што рыбы ня могуць разьлічаць колер, бо на глыбіні колеры ня відаць з прычыны зьнішчэньня колеравых праменьняў вадой.

Судзячы па самому ўтварэньню вуха рыбы, якое складаецца толькі з слухавога каменчыка ці століта і ня мае ні знадворнага вуха, ні барабаннай балонкі, ні „еўстахіевай трубы“, цяжка думаць, каб слых у рыбы быў добра разьвіты. Ва ўсякім выпадку слых у рыбы ня мае нічога агульнага з слыхам наземнай жывёлы. Калі вядомы выпадкі, што рыбу прывучалі прыплываць на званок, дык у гэтым выпадку ўся справа тлумачыцца тым, што рыбы бачылі таго чалавека, хто званіў, апроч таго ў ваду перадавалася сатрасеньне ад ступы чалавека, гэта і ўспрымалася рыбамі.

У большасьці рыб з боку можна бачыць так званую бакавую лінію, якая называецца органам 6-га адчуваньня. Да гэтага часу функцыі бакавай лініі дакладна ня выяўлены. Некаторыя думаюць, што гэты орган служыць рыбе для ўспрыйманьня масавых зрухаў вады (каля 6 зрухаў у сэкунду, і такім чынам займае сярэдняе становішча між слыхам, і органамі датыканьня). Апроч таго, бокавая лінія, па думцы некаторых, успрыймае ўзрушанасьць, якая выклікаецца токам вады.

Датыканьне ў рыб разьвіта вельмі добра. Такія органы, як вусікі, усякія мясістыя адросткі на частках цела і г. д. і служаць для адшуканьня корму і нашчупваньня дна. Наогул-жа пра рыб можна сказаць, што яны параўнаўча з птахамі і асабліва з сысунамі, тупыя стварэньні, толькі ў вельмі слабай ступені здольныя да навучаньня шляхам вопыта.

**В. Е.**

# АПАВЯДАНЬНІ І НАРЫСЫ

## Чым гудзе зямля

Ён асьцярожна зьняў з галавы шапку і выняў з яе абшэрпанага нутрэўя скрутак з табакам. Потым адарваў кавалак газэціны і прызвычаенымі пальцамі скруціў папяросу. Лёгкі блакітны дым на некаторы час засланіў перад ім бязьмерную далячыню балота. Потым, калі заслона зьнікла, ён зноў глянуў туды, дзе пад мыльнымі пагоднімі хмарамі слаліся шырокія прасторы.

Некалі вялікія буры прайшліся ў сваім грозным грукаце над гэтаю ціхаю зямлёю. Векавы спакой лазовых нізін быў парушаны неўгамідным лопатам кулямётаў і пярунамі цяжкіх гармат. Нябачныя каршуны гудзелі сьмерцю ў патрывожным паветры і пасылалі на зямлю выканаўцаў няшчаднага руйнаваньня. Полымем вясковых пажараў дрыжэла цемень начы і варожыя стрэлы душылі плач маці па дзецях-партызанах.

Потым у роспачы ад зьдзекаў белапалякаў душыла зямля адзінаццаць месяцаў сваю крыўду. Адважныя сыны тых, хто здабываў сабе хлеб мазалямі, ішлі ў цёмныя лясы, каб з яго нэтраў гаварыць з панамі жорсткім агнём помсты...

Вочы чалавека, што курыў, седзячы на балотным пні, паплылі ў блакітным тумане ўспамінаў. Дзесяць год таму назад ён воўкам ад вольнага жыцьця бадзяўся па гэтым балоце. Недзе, за 20 кілёмэтраў адсюль засталася ў вёсцы жонка з маленькім сынам Сьцёпкам, а ён, бацька сваёй сям'і, ня меў права быць дома...

І яшчэ.

Калі помстай загудзела зямля і ад усходу пайшла на дапамогу Чырвоная сіла—у клясавай ненавісьці накінуліся партызаны на паноў. Людзей лесу сустрэлі агнём сьмерці і шмат хто з адважных ляглі на ўскраіне гэтага балота.

Чалавек нэрвова заварушыўся на пні і ад перапоўненых пачуцьцяў махнуў рукою перад сабою. Бровы смаргнулі ўніз і вочы з жорсткай няўхільнасьцю пачалі ўбіраць у сябе прастор балота. Ага! Вунь тая бяроза, дзе ён апошні раз бачыў свайго брата Івана. Куля жаўнера кінула здаравяку на багну: ён яшчэ спрабаваў падняцца апіраючыся на вінтоўку. Яшчэ нешта крычаў, паказваючы ў кусты, потым няёмка сунуўся акрываўленым тварам у траву, каб больш не ўставаць.

А на другі дзень прыйшлі чырвоныя. І вузкімі сьцежкамі, адзін за адным ішлі змораныя ад зьвярынага жыцьця людзі. Ішлі ў вёскі да сваіх хат. І шмат хто знайшоў замест хаты толькі пажарышчы і трупы, а ня жывых сваякоў...

* * *

І зноў ажыла зямля. Новыя заводы грузна асядалі на некалі здрапсаванай панамі зямлі. Магутнымі машынамі трывожылі спакой нізін.

Тысячы людзей пачалі штурмаваць балота. Як мурашкі, корпаліся яны ў гнілым балотным целе. Шукалі спосабаў ажывіць спрадвечныя нетры...

Чалавек два разы зацягнуўся папяросай і потым устаў з пня. Ён ужо зьбіраўся, закінуўшы ламанку за плечы, ісьці з балота, як раптам блізка яго тугі гул стрэлу страсянуў паветра. Сьледам за гэтым з-за кустоў паказаўся нейкі незнаёмы паляўнічы.

— Ці ня бачылі тут цецярука?—крыкнуў яшчэ здалёк.—Ото-ж толькі садануў, пер'е нават пасыпалася.

Ён крыкнуў свайму сабаку „шукай, шукай" і падышоў бліжэй.

— Ну і ў вас такая самая здабыча, як і ў мяне, —весела ўхмыльнуўся незнаёмы, лопаючы рукою па сваёй пустой сумцы. Адным словам, удача.

Ён змоўчаў і з-пад ілба дапытна глянуў на таго, да каго падышоў.

— Здаецца мне, і не здаецца мне,—прагаварыў незнаёмы, расьцягваючы словы.—Ці не старшыня вы калгасу „Чырвонае раньне"?

— Я.

— Тодар Паўлоўскі?

— Ён самы. Адкуль вы мяне ведаеце?

— Я—Міхась Горскі. Працую бухгальтарам ў саўгасе. Дайце пасядзім. А то ногі аслаблі ад тэптаньня гэтай пустэчы.

Ён зьняў саламяны, плецены з жытняй саломы капялюш і пачаў ганяць перад сабой вецер. Сабака лёг ля яго, высалапіўшы ад гарачыні язык.

— От табе і дзічына!—прагаварыў бухгальтар, жуючы зубамі круглец.—Некалі тут ўсё кішэла жыўнасьцю.

— А цяпер?—спытаў Паўлоўскі.

— Цяпер?—тут бухгальтар старожка павёў галавою, прыслухоўваючыся. Потым ледзь прыметнай ценьню сьлізнула на яго востраносым твары ўхмылка расчараваньня.—Чуеце вы гул? Ці было гэта раней?

Паўлоўскі падняў галаву.

Недзе у правы бок гудзела зямля. Тугі рытмічны гул плыў на балота, калыхаў у нябыцьці спакоі нізін. У гэты ліпеньскі дзень зусім ня было ветру. Моўчкі парыліся на сонцы лазовыя кусты і дробныя бярэзіны. Здавалася, нейкая трывога заўладала балотам і яно пакорна схіляла сваю галаву перад будучыняй.

— Трактары лезуць на балота. От што губіць дзічыну! Гляньце унь туды. Ці былі там раней гэтыя канавы, што смокчуць сок дрыгвы? Цяпер там з коламі можна ехаць, а ня то што качак шукаць...

Паўлоўскі весела ўхмыльнуўся.

— Вы праўду кажаце! Там больш ня будзе дзічыні. 300 гэктар ураджайнай зямлі адваяваў наш калгас ад балота. Гул трактароў—гэта гул абнаўлёнай зямлі, гул вялікага будаўніцтва соцыялізму.

— Навошта мне ваш той вялікі гул, калі пастраляць ня будзе дзе? Што будзе з паляўнічай гаспадаркай праз дзесяць год?—Будзьце пэўны, што зайцоў і птах вы зможаце бачыць дзе-небудзь у зьвярынцы. Ад усіх гэтых кусьцікаў і ламінкі не застанецца...

Ён гаварыў сур'ёзна. Яго вочы безнадзейна блукалі па балоце. І нейкі жорсткі выраз застыў на твары, калі ў далячыні паплыў белы дым трактара.

— Хутка і тут загудуць машыны,—пачаў Паўлоўскі. Ён ня мог седзячы гаварыць пра такія справы і ўстаў. У яго магутнай постаці адчуў бухгальтар вялікую пагрозу балоту.—На той год ад гэтага карчэўя толькі пыл пойдзе. Не дзесяткі, а сотні пудоў зярна будзем браць з гэктару гэтай дрыгвы, над якой некалі плакалі нашы продкі. Жыта, авёс, бульба, коноплі, лён—будуць драць гэты балотны чарназём. Усё гэта будзе асновай для пабудовы новых, яшчэ больш магутных фабрык і заводаў.

Бухгальтар ня мог спакойна сядзець. Ён устаў і, нэрвова скручваючы папяросу, залапатаў, як цецярук у павабнай песьні вясны.

— Ну, добра! Няхай балота будзе даваць тое, што патрэбна калгасам, заводам і фабрыкам. Але дзе будуць праводзіць час 30 тысяч паляўнічых? Ад 2 мільёнаў гэктар багны застанецца толькі сухое месца! Качкам і цецяруком ня будзе таго прывольля. Яны назаўсёды пакінуць краіну балот...

Старшыня калгасу маўчаў. Цяпер узьняўся невялікі вецер. Ён ішоў сюды адтуль, дзе працаю гудзела зямля. Адтуль, дзе ў грукаце машын пачынаўся пераможны наступ на твань і дзічыну спрадвечнай дрыгвы. І ў гэтым чалавеку з калгасу была нейкая нязьмерная веліч і сіла зямлі. Сіла, якую ўзгадавала праца і жорсткае змаганьне за Савецкую Беларусь...

Бухгальтар чакаў адказу. Хацеў спытаць яшчэ раз. Потым перадумаў і, безнадзейна махнуўшы рукою, паклыпаў у бок яшчэ не кранутых кустоў балота.

**М. Пасьлядовіч.**

# Сны паляўнічага

Дванаццатага ліпеня пачынаецца паляваньне на качак. Мы—я і яшчэ адзін паляўнічы—сядзім на бярвеньні. Змрок ахутвае будынкі і дрэвы, сілуэты топаляў, што стаяць насупроць праз вуліцу зацягваюцца нібы туманам, а потым, разам з апошнімі праменьнямі вячэрняй зары, тонуць ў цемры.

Каля мяне ляжыць мой сэтэр „Біль“, каля таварыша—пойнтэр „Баян“. Сабакі нібы прыслухоўваюцца да нашай гамонкі, пацягваюцца і, раскрыўшы ляпу, смачна аблізваюцца.



Разам з заравам на захадзе гінуць і гукі. Акраіна гораду пагружаецца ў цішыню. Над дваром працягнулі дзьве качкі. Крылы іх шпарка, з лёгкім пасьвістам, склізяць у паветры. Сілуэты качак паказаліся над намі толькі на хвіліну.

— Качак будзе...—у глыбокім задуменьні сказаў таварыш.

— Яшчэ, ня было-б. Вясной ніхто не парушыў іх спакою.

— Пастраляем... Колькі ты патронаў набіў?

— Штук з шэсьцьдзесят будзе.

— У-у-у...

— Я нічога ня меў-бы супроць, каб апошнія дванаццаць дзён перад паляваньнем мінулі незаметна. Каб ноч была трое сутак, потым дзень, і зноў трое сутак ноч. Я-б выкрэсьліў з каляндара некалькі дзён з вялікім жаданьнем.

— Я таксама-б. Цяжка чакаць!—адказаў таварыш.

Зноў змоўклі. Галовы апусьцілі ў задуменьні на рукі, упёршыся локцямі ў каленкі. Біль пацягнуўся, пазяхнуў, піскнуў. Падняўся, падышоў да каліткі і стаў на стойку, мусіць на ката. Праз мінуты дзьве зноў вярнуўся і лёг каля маіх ног. На захадзе засталася толькі белая палоска неба.

— Звычайна, у гэту пару едзеш, трасешся на падводзе, між жытам дарога гадзюкай скручваецца, на балоце разьдзіраецца драч, а сэрца калоціцца... Хутчэй-б, хутчэй!

— Праўдзіва... Летась, якраз так і было... За Рудзенск кілёмэтраў з 15 праехалі. Пасьля вячэры спаць ляглі, сьвет пагасілі. Вакно адчынена і чутны сьвіст крылаў пералётных, плёск качак на рацэ.

І так думка за думкай плывуць у галаве, слова за слова чапляецца. Не ахвота ісьці спаць. Патушылі агні, а мы ўсё сядзім у задуменьні, перакідваючы кароткімі сказамі. Нехта хлопнуў вакном. То жонка кладзецца спаць. Я падымаюся і хачу ісьці, хоць і ня хочацца парушаць ап'яняючы спакой.

— А я ўжо тры дні адрабіў выхадных на заводзе. І ліст атрымаў ад калгасьніка. Піша: „Качак, як гразі“. І ехаць недалёка ад станцыі, падводу калгас дае. А ведаеш, зараз там, у калгасе, парадак. Прыедзе чужы чалавек, зараз у сталоўку, гарбата і ўсё такое іншае, а потым радыё, бібліатэка, кіно. Калгасная ячэйка паляўнічых сёлета праводзіла „Дзень аховы птахі“ і кінокарціну паказала на гэту тэму. Зусім іншае жыцьцё стала,—лаўлю я апошнія няясныя гукі таварыша ўжо каля дзьвярэй.

Не запальваючы лямпы, сьцялю пасьцелю і кладуся. Мерна цікае маятнік гадзіньніка. Па сьцяне недзе паўзе павук ці іншая казяўка, шапаціць па абоях. Дзінкае па вакну муха. Я гляжу ўверх, у цемру. Вочы зьліпаюцца, а заснуць не магу. Напружаны нэрвы.

---

...Вось я іду па балоту, качаюся на мху, які гарой падымаецца перада мной на вадзе і, калі я ступаю на яго, нага мякка датыкаецца да мху і лезе ў твань. Я качаюся, як у калысцы. Біль узьбіраецца з купіны на купіну, нюхае кожны кусток. Потым Біль выцягнуўся, „пяро“ прыняла форму шашкі, пярэдняя правая нага сагнута. Біль стаіць. Я імкнуся хутчэй дабрацца да Біля і не магу. Ногі завязьлі ў дрыгве, не павярнуцца. Я крычу: „Біль, ляжаць, гад

# ШТО СКАЗАЎ ПЛЕНУМ

## ПРАЎЛЕНЬНЯ „БЕЛКОХОТСОЮЗА“

### РЭЗОЛЮЦЫЯ

**па дакладу праўленьня „Белкохотсоюза“**

Заслухаўшы даклад аб дзейнасьці праўленьня за час з 1 студзеня 1929 г. і садаклад рэвізійнай камісіі, Пленум Праўленьня лічыць, што за гэты пэрыяд Праўленьнем зроблена вялікая работа і мае некаторыя посьпехі.

У выніку праведзенай чысткі саюзу паляўнічых склад паляўнічых па соцыяльнаму становішчу палепшыўся. На 1-е мая маецца паляўнічых 1 і 2 катэгорыі 11023 чал. альбо 45 проц., 3 катэгорыі 7229 чал. альбо 29,4 проц., 4 катэгорыі 6219, альбо 25,4 проц. і 5 катэгорыі 58 альбо 0,2 проц.

Пачата праца па пераводу раённых калектываў на гаспадарчы разрахунак і арганізацыі паляўнічых ячэек на вытворчасьці, саўгасах і калгасах.

Пачата плянавае вядзеньне паляўнічай гаспадаркі, у выніку чаго адчынена 53 заказьнікі і 1 паляўнічая гаспадарка.

Пачата праца па трусагадоўлі, арганізавана 5 трусятнікаў, з агульнай колькасьцю 205 трусоў.

Шырока праведзена і выканана кампанія па падпісцы на часопіс „Паляўнічы Беларусі“. Усяго падпісчыкаў маецца 17500.

Прыняты актыўны ўдзел у Міжнароднай выстаўцы пушніны і паляваньня ў Лейпцыгу і 1-й Усебеларускай сельска-гаспадарчай выстаўцы ў Менску.

У загатоўках пушніны атрымаўся пералом у бок павышэньня ўдзельнай вагі „Белкохотсоюза“ да 39,2 проц. агульных загатовак па Беларусі.

Фінансавае становішча „Белкохотсоюза“ палепшылася. Уласныя сродкі павысіліся з 3,3 проц. да 35,7 проц. да валюты балянсу.

У практычнай рабоце маецца шэраг недахопаў, якія ў асноўным зводзяцца да наступнага:

1) Адсутнічалі квартальныя пляны і вучот працы.

2) Неправідловае і недастатковае кіраваньне каапэраваньнем бедняты, у выніку чаго таварыствамі дапушчан рад памылак.

3) Недастатковая жывая сувязь з таварыствамі і колектывамі.

4) Адсутнічаньне кіраўніцтва і праверкі працы па соцыялістычнаму спаборніцтву.

5) Недастаткова прымалася мер для атрыманьня сродкаў на вядзеньне паляўнічай гаспадаркі.

6) Не разгорнута работа зьверагадоўлі. Будаўніцтва трусятніка праводзілася бясплянава.

7) Барацьба з драпежнікамі і браканьерамі вялася недастаткова.

8) Слабая падрыхтоўка да загатоўкі пушніны, амаль поўнае адсутнічаньне кіраўніцтва загатоўкамі, несваячасовая прыёмка здаваемай таварыствамі пушніны і несваячасовая адсылка актаў на прынятую пушніну.

9) Амаль поўнае адсутнічаньне кіраўніцтва культасьветнай працай таварыстваў.

10) Пагоршаньне якасьці зьместу часопісі „Паялўнічы Беларусі“ і зусім недапушчальныя адносіны з боку рэдакцыі да дрэннай дастаўкі часопісі падпісчыкам.

11) Недастаткова ўвагі ўдзялялася падрыхтоўцы кадраў для паляўнічай каапэрацыі. Контрактацыю аднаго студэнта Горацкай Сельска-гаспадарчай акадэміі і пасылку 3 таварышоў на кароткатэрміновыя курсы трусаводаў лічыць недастатковым. Амаль зусім не праводзілася вылучэньне радавых паляўнічых на кіруючую працу. Вылучана толькі 2—у Віцебску і Гомелі.

12) Зусім недапушчальныя адносіны да сродкаў, сабраных на пабудову самалёта, якія былі пушчаны ў гандлёвы зварот, замест таго, каб іх перадаць па прызначэньню.

13) Пастанова VIII Зьезду ўпаўнаважаных „Белкохотсоюза“ аб цэнтралізаваным забесьпячэньні таварыстваў выканана дрэнна. Ня было сталага гандлёвага пляну, дагаворы на пастаўку тавараў заключаліся без папярэдняга вывучэньня рынку, у выніку чаго цэны на тавары былі вышэй нармальных. Налажэньні на тавары ўтвараліся бяз усялякіх падстаў і па некаторых групах тавараў даходзілі да 40 проц. Несваячасовая адпраўка рахункаў на тавары затрымлівала рэалізацыю тавараў на мясцох. Ня было вучота выкананьня дагавораў пастаўшчыкамі. Былі выпадкі продажу дэфіцытніх тавараў прыватнікам (мехтавары).

14) Каштарыс на 1929-30 год зацьверджан толькі ў чэрвені месяцы 1930 г. Становішча бухгальтэрыі зусім недапушчальнае (адставаньне запісаў па кнігах на 7 месяцаў). Сакратарыят праўленьня знаходзіцца ў такім становішчы, што перапіска ня выконваецца па некалькі месяцаў і запытаньні таварыстваў застаюцца без сваячасовага адказу.

Выходзячы з вышэйпералічанага, Пленум Праўленьня „Белкохотсоюза“ прапануе:

1) У мэтах набліжэньня апарата „Белкохотсоюза“ да паляўнічых і большага ўцягненьня паляўнічых мас у працу паляўнічай каапэрацыі — правесьці каранную рэарганізацыю ўсёй сыстэмы „Белкохотсоюза“.

2) Для найлепшага кіраўніцтва і абслугоўваньня паляўнічай каапэрацыі, зрабіць перабудову апарату праўленьня „Белкохотсоюза“ шляхам увядзеньня функцыянальнай сыстэмы і размеркаваньня абавязкаў паміж членамі праўленьня. Стала працуючых у праўленьні „Белкохотсоюза“ павінна быць тры члены праўленьня. Арганізаваць апэрацыйны аддзел і ўзмоцніць інструктарскі склад праўленьня, давеўшы яго ня менш двух чалавек.

3) Праўленьню скласьці дэталёвы плян працы па ўсіх галінах дзейнасьці ў квартальным разрэзе. Весьці дакладны вучот усёй праробленай працы і сачыць за сваячасовым выкананьнем плянаў і заданьняў таварыствамі, а таксама выкананьнем дагавароў пастаўшчыкамі.

4) Ня гледзячы на дасягненьні, якія ёсьць па ачыстцы радоў паляўнічай каапэрацыі ад чужых элемэнтаў, неабходна і ў далейшым працягваць гэтую працу, удзяляўшы асаблівую ўвагу на каапэраваньне рабочых, батракоў, бедняты і калгасьнікаў. З гэтай мэтай перагледзець шкалу штогоднік узносаў у бок прадастаўленьня розных ільгот для гэтых катэгорый паляўнічых за кошт іншых катэгорый. Павялічыць фонд каапэраваньня бедняты, які поўнасьцю і сваячасова выкарыстаць па прызначэньню.

---

печаны“, і прачынаюся. Жонка запаліла сярнічку, нешта запыталася і я зноў лёг.

І зноў пачынаецца. Вось я стрэліў па качцы, якая гэта качка—пятая! Качка ўплывае на другі бок ракі. Біль гоніцца за ёю. Трава абвіваецца вакол яго ног. Білю цяжка плысьці, але ён дабраўся да качкі, нясе ў зубох. Біль аслаб і застраў у траве. Яго мускулы стаміліся, абвялі, але сабака чапляецца за жыцьцё, імкнецца парваць путы з травы і ня можа. Глядзіць на мяне сваімі разумнымі вачыма і пішчыць, а качку з зубоў ня выпускае. Я кідаю стрэльбу, патранташ, торбу з качкамі і кідаюся на дапамогу. Трава абхоплівае мае рукі і ногі, я слабею. Мутная вада ўжо пападае ў рот. Я, як ёсьць сілы, крычу: „Ай, рату-у-й-це, тану“ і пагружаюся ў ваду.

---

— Што, ударыўся?—пытаецца жонка, трымаючы лямпу ў руцэ. Ты-ж зваліўся з ложку, нешта крычаў, ды так моцна!

— А дзе Біль?

— У будцы, прывязаны.

Біль піскнуў за вакном і я зноў пагрузіўся ў царства сноў.

**М. Я. Цэлеш.**

5) Правесьці праверку выкананьня заключаных дагавораў па соцспаборніцтву і выправіць гэтую працу, дабіваючыся палепшаньня практычных вынікаў яе. Вынікі працы па соцспаборніцтву друкаваць у часопісі „Паляўнічы Беларусі".

6) У мэтах палепшаньня паляўнічай гаспадаркі, неабходна прадоўжыць арганізацыю заказьнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падбор паляўнічых угодзьдзяў пад заказьнікі, ахову іх, на ўнутраную работу ў іх. Давесьці агульны лік заказьнікаў па БССР у 1930-31 г. да 75. У культурнай паляўнічай гаспадарцы неабходна і ў далейшым мець напрамак пушной зьверагадоўлі і асабліва трусагадоўлі.

7) Трусагадоўля ў БССР зьяўляецца асноўнай базай экспарту пушніны і подсобнікам у разьвязаньні мяснай праблемы, чаму прапанаваць таварыствам зараз-жа прыступіць да контрактацыі трусоў і арганізацыі трусаводных гаспадарак, давеўшы да канца 1931 году колькасьць матак ня менш як 200 у кожнай акрузе.

8) Праўленьню „Белкохотсоюза" скласьці канкрэтны плян барацьбы з браканьерствам і драпежнікамі. Асаблівую ўвагу неабходна ўдзяліць барацьбе з драпежнікамі сельскай і паляўнічай гаспадаркі—ваўкамі, адшукаўшы для гэтай мэты сродкі як ад самога насельніцтва, так і дабіваючыся павялічэньня дзяржасыгнаваньня.

9) Дабіцца манаполіі пушных загатовак „Белкохотсоюзам", скласьці канкрэтныя і рэальныя пляны загатовак па таварыствах і падрыхтаваць кадры загатаўцаў, шляхам арганізацыі кароткатэрміновых курсаў. Дабіцца своечасовай прыемкі пушніны ад таварыстваў Дзяржгандлем, а таксама атрымаць адпаведныя авансы на загатавіцельныя апэрацыі.

10) Праўленьню „Белкохотсоюза" зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на культурна-асьветную працу сярод паляўнічых. Для гэтага распрацаваць дэталёвы плян, давеўшы яго да нізавых зьвеньняў сыстэмы паляўнічай каапэрацыі. Культ-асьветная праца праводзіцца галоўным чынам праз часопісь „Паляўнічы Беларусі", а таму неабходна палепшыць зьмест яго і прыняць меры да акуратнай дастаўкі яго пэдпісчыкам і своечасовага выпуску. Завербаваць большую колькасьць карэспандэнтаў з месц і праводзіць з імі адпаведную і сталую працу. Разгарнуць працу па выпуску насьценгазэт, асабліва ў ячэйках.

11) На стралковую працу зьвярнуць асаблівую ўвагу, праводзіць яе ў плянавым парадку, увязаўшы яе з Асоавіяхімам. Дабіцца ўдасканаленьня стралковага спорту.

12) Задавальненьне паляўнічых боепрыладамі і збыт прадуктаў паляваньня зьяўляюцца асноўнай матар'яльнай базай для паляўнічай каапэрацыіі. Нагэтаму неабходна ўжыць плянавасьць па забесьпячэньню таварамі таварыстваў. Дагаворы на пастаўку тавараў заключаць непасрэдна з трэстамі і сындыкатамі. Панізіць накладаньні на тавары, адпускаемыя з базы да 10 проц. у сярэднім. Улічваючы нерэальнасьць заявак таварыстваў на базе, мець сталы запас тавараў да 25 проц. звыш заявак таварыстваў. Забясьпечыць „Белкохотсоюз" сродкамі, для чаго прапанаваць усім таварыствам зараз-жа пагасіць запазычанасьць па паявых узносах. Тавары па заяўках таварыстваў накіроўваюць транзітам непасрэдна з вытворчасьці ў таварыствы. Завоз тавараў на базу вытвараць у выключных выпадках. Прыняць меры да падшуканьня памяшканьня для ўтрыманьня пораху.

13) Даклад рэўкамісіі зацьвердзіць.

У далейшай працы рэўкамісіі прапанаваць наступнае:

а) Распрацаваць палажэньне аб рэўкамісіях раённых аб'яднаньняў паляўнічых.

б) Распрацаваць сумесна з праўленьнем адзіную сыстэму рахункаводзтва па ўсёй сыстэме „Белкохотсоюза".

в) Узмацніць сувязь з нізавымі рэўкамісіямі паляўнічай каапэрацыі для большага кіраваньня іх працай.

г) У сувязі з тым, што маюцца выпадкі непрацаздольнасьці нізавых рэўкамісій—прапанаваць цэнтральнай рэўкамісіі правесьці абсьледваньне працы ня менш 2-х рэўкамісій т-ваў.

д) Прыняць актыўны ўдзел у працы праўленьня па рэарганізацыі сыстэмы паляўнічай каапэрацыі.

е) Правесьці рэвізію працы Дабрамысьлянскай паляўнічай гаспадаркі.

ж) Прапанаваць рэўкамісіям таварыстваў абавязкова дасылаць копіі актаў рэвізій таварыстваў цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

Арыгінал за належнымі подпісамі.

З арыгіналам згодна:

Сакратар **Багданаў**.

## РЭЗОЛЮЦЫЯ

### па дакладу т. Сільнікава аб рэарганізацыі сыстэмы Паляўнічай Каапэрацыі

1. Прызнаць неабходным і своечасовым ліквідацыю акруговых таварыстваў паляўнічай каапэрацыі з перадачай усіх праваў раёнам.

2. Неадкладна ўсім акруговым і раённым таварыствам прыступіць да падрыхтоўкі правядзеньня рэарганізацыі сыстэмы паляўнічай каапэрацыі і пераводу раёнаў на гаспадарчы разрахунак з тым, каб забясьпечыць шпаркасьць, арганізаванасьць і старannae правядзеньне рэарганізацыі.

3. Канчатковае правядзеньне работы па рэарганізацыі ажыцьцявіць у тэрмін, які будзе паказан XVI зьездам партыі і Урадам аб адміністрацыйным дзяленьні Беларусі, не адставаючы ад агульнага тэмпу рэарганізацыі.

4. Пленум даручае рабочай частцы праўленьня дакладна вывучыць пытаньне рэарганізацыі сыстэмы паляўнічай каапэрацыі як у арганізацыйным, так і ў гаспадарчым сэнсе і свой апарат перабудаваць адпаведна патрабаваньням новага дзяленьня.

5. Заслухаўшы даклад аб арганізацыі ўсесаюзнага цэнтру паляўнічай каапэрацыі, пленум ухваляе крокі рабочай часткі ў гэтым напрамку і даручае давесьці гэту справу да канца.

Арыгінал за належнымі подпісамі.

З арыгіналам згодна:

Сакратар **Багданаў**.

---

# Паляўнічы! Пішы ў сваю часопісь аб недахопах і дасягненьнях у рабоце свайго таварыства. Толькі пры масавым удзеле паляўнічых можна палепшыць якасьць часопісі і будаваць паляўнічую гаспадарку.

---

*РЭДКАЛЕГІЯ:* **Міх. Шмідт, П. Тамашэўскі, Г. Сільнікаў.**

*АДКАЗНЫ РЭДАКТАР* **Ш. Шмідт.**

ЦАНА 30 кап.



## ДАГАВОР

Горад Менск, ліпеня 9 дня. Мы, ніжэйпадпісаныя Баларускі Саюз Паляўнічых, які ў далейшы будзе названы „Белкахотсаюз" у асобе старшыні праўленьня тов. Сільнікава Р. Я., які дзейнічае на падставе даручэньня праўленьня Белкахотсаюву і пасьведчанаму ў дзяржайнай Менскай натарыяльнай канторы 30/III-30 г. за № 6149, з аднаго боку, і Беларускі саюз каапэрацыйных а'днаньняў, у далейшым „Белкаапсаюз" у асобе намесьніка старшыні праўленьня тав. Кумкеса Н. З., які дзейнічае на падставе даверанасьці праўленьня Белкаапсаюзу, пасьведчанае ў Менскай натарыяльнай канторы за № 895 ад 30/I-29 г. з другога боку, заключылі гэты дагавор у наступным:

1. Белкахотсаюз абавязуецца праз сваіх арганізаваных паляўнічых здаць Цэрабкоопам і райспажтаварыствам прадукцыю свайго паляваньня ў разьмеры 70.000 шт. бітых дзікіх вутак (качак), цецярукоў і белых курапатак і 75.000 шт. бітых зайцоў і трусоў, прыкладнай вагай у 100 тон птушынага мяса і 140 тон зайчыны.

2. Плян здачы па акругах устанаўляецца ў %%: Віцебская 12%, Менская —13%, Бабруйская—14%, Гомельская—13%. Аршанская—10%, Мазырская—16%, Магілеўская 12%, Полоцкая —10%, прычым канчатковы тэрмін здачы для птушак—15 лістапада, а для зайчыны і трусоў—1-га лютага 1931 г.

3. Дзічына птушыная здаецца неабскубленай, як у крамы райспажывецкага таварыства ў раённых цэнтрах, так і ў крамы ЦРК, а зайцы і трусы здаюцца выключна ў крамы ЦРК у шкурках і паляўнічы ў краме ЦРК зьнімае і зьбірае сабе скуркі.

4. Дзікая птушка (цецярук, качка і курапатка) здаецца па цане 1 р. 20 кап. за кгр. ф-ка крама, здатачны пункт, а зайцы і трусы па цане 95 кап. кгр. таксама ф-ка крама ЦРК.

Увага. Пры здачы птушак у райспажтаварыствы, цана зьніжаецца на 20 кап. на кгр.

5. Здатчык дзічыны ў ЦРК мае права атрымаць 4 пачкі папірос ці 2 пачкі махоркі, 500 гр. селядцоў за грошы на кожную штуку здадзенае дзічыны. Акрамя таго, на 25% астатніх грошай якія прылічваюцца здатчыку за дзічыну апошні мае права набраць бабаўнянай мануфактуры, абутку і гатовага адзеньня, але ня больш чым 10 мэтраў мануфактуры альбо 1 пары абутку. Пры здачы ў райспажтаварыства, прэміяй выдаецца ў разьмеры 50% у суадносіне з прэміяй, выдаваемай ЦРК.

6. На здадзеную дзічыну паляўнічы выдае ад сябе рахунак у якім паказваецца:

1. Імя і прозьвішча паляўнічага.
2. Раён, акруга і № паляўнічай кніжкі.
3. Колькасьць і найменьне дзічыны.
4. Вага, цана, сума.

Увага. Складаньне рахунку ўваходзіць у абавязак прыёмшчыка.

7. На суму рахунку робіцца налічэньне ў разьмеры 3% у фонд індустрыялізацыі паляўнічай гаспадаркі і сума налічэньня пераводзіцца на бягучы рахунак № 521 Белкахотсаюз у Менску праз Дзяржбанк.

8. ЦРК і спажывецкае таварыства кожныя 10 дзён пасылаюць зьвесткі Белкаапсаюзу. У гэтых зьвестках паказваецца найменьне і колькасьць дзічыны, вага і сума грошай аплочанай паляўнічым.

9. Пры няздачы агаворанай колькасьці дзічыны з боку Белкахотсаюзу ці нявыдача агаворанай прэміі здатчыку дзічыны з боку Белкаапсаюзу—вінаты бок плаціць праваму няўстойку ў разьмеры 3% з сумы нязданай дзічыны, ці нявыданай прэміі са ўсёй нарыхтоўкі згодна п. п. 1 і 5 гэтага дагавору, пры чым сума няўстоўкі павінна пайсьці ў фонд палепшаньня паляўнічай гаспадаркі і разьмяркоўвацца па акругах у залежнасьці ад выкананьня пляну здачы дзічыны.

Старшыня праўленьня Белкахотсаюзу **Сільнікаў.**

Нам. Старшыні Праўленьня Белкаапсаюзу **Кумкес.**

Друкарня БД[illegible] Заказ № 2187. У ліку 17000 экз. Галоўлітбел № 2547.